# Ніва

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 14 (1873) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 5 КРАСАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## ДЗЕЛЯ ДОБРАЙ АТМАСФЕРЫ

З сакавіка дырэктар беластоцкага радыёвяшчання Ежы Мушынскі сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх арганізацыяў. У сустрэчы ўдзел узялі Аляксандр Баршчэўскі і Ян Сычэўскі — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Ян Чыквін — Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Алег Латышонак — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Марко Заброцкі — Звяз беларускай моладзі, Аляксандр Максімюк — прадстаўляў інтарэсы Беларускага аб'яднання студэнтаў. Прысутнічалі таксама журналісты беларускай рэдакцыі Беластоцкага радыё — Юры Ляшчынскі, Уладзіслаў Праховіч і Станіслаў Пазнанскі. Сустрэча датычыла інфармацыйнай палітыкі рэгіянальнага радыёвяшчання ў Беластоку.

З інфармацыяй выступіў дырэктар радыёвяшчання. З'явілася ў апошні час, сказаў ён, тэндэнцыя, каб ствараць пры радыёвяшчаннях гэтак званыя праграмныя рады, заданнем якіх была б выпрацоўка інфармацыйнай палітыкі радыёвяшчання ды дбанне пра яго профіль. Калі нават з'явіцца адпаведны закон пра праграмныя рады, не вырашыць гэта клопату — паводле якога ключа ствараць такую раду? Каб праграмная рада пры даным радыёвяшчанні была сапраўдным прадстаўніцтвам грамадскасці, якой тое радыёвяшчанне служыць, мусіла б яна быць велізарнай структурай. Больш сэнсоўна, лічыць Ежы Мушынскі, сустракацца раз у нейкі час з прадстаўніцтвамі паасобных асяроддзяў. З думкаю, каб пачуць заўвагі беларускага асяроддзя наконт функцыянавання беластоцкай радыёстанцыі, ладзілася мною гэтая сустрэча, сказаў Ежы Мушынскі.

Працягваючы сваю інфармацыю пра працу беластоцкага радыёвяшчання, Ежы Мушынскі сказаў пра супрацоўніцтва з вяшчальнымі ўстановамі ў Беларусі. Нейкі час таму было падпісана пагадненне з Дзяржаўным камітэтам па тэлебачанні і радыёвяшчанні ў Менску, але на гэтым падпісанні ўсё закончылася. Баляслаў Сушкевіч, які падпісаў пагадненне з беларускага боку, выехаў і ўсякі след па ім загінуў. Добра затое ўкладаецца супрацоўніцтва з гродзенскім радыё, сказаў Ежы Мушынскі. Заўважыў ён яшчэ, што ў Беларусі ўзнікне міністэрства інфармацыі, увойдуць у якое радыёвяшчанні — стварае гэта небяспеку ўрадавага кантролю над сродкамі інфармацыі, а ў выніку можа абмежаваць магчымасці супрацоўніцтва з гэтымі ж

( Працяг на стар. 5 )

## ЧОРНАЯ-ЦАРКОЎНАЯ

Наваколле сённяшняга мястэчка Гродзіск і трох вёсак з супольнай назвай Чорная здаўна было месцам асаблівага зацікаўлення з боку гісторыкаў, археолагаў і розных аматараў даўніны. Як рэдка дзе, на даволі невялікай тэрыторыі тут добра захавалася шмат помнікаў старажытнасці: курганоў, могільнікаў. А ў самім Гродзіску можна знайсці гарадзішча. Асаблівы характар гэтых ваколіц прадвызначылі галоўным чынам пасяленчыя плыні. Тут у X—XII ст.ст. сустрэліся заходнеславянскія плямёны мазаўшан і ўсходнеславянскія — дрыгавічоў і бужан. Відаць, не абышлося без канфліктаў паміж тымі плямёнамі, калі наваколле, такое багатае старажытнымі могілкамі як мазавецкага (магілы ў каменных абставах), так і ўсходнеславянскага (курганы) тыпу. Найбольшую цікавасць званіцай. Пра прычыну знікнення царквы з таго месца вось як гаворыць легенда.

У Светлае Свята (Вялікдзень) адна жанчына пайшла ў поўнач на ўтрэню ў царкву. Была ж жанчына злою чарадзейкай. Па дарозе яна спатыкнулася і ўпала ў балота. Скінуўшы з сябе і са сваіх плячэй балота, яна са злосцю закляла царкву: „Бодай жа-се запала, як я-се поваляла (вънэчкалась)". І вось, паводле яе злоснага слова, царква тая назаўсёды скрылася ў нетрах зямлі (паводле: а. Аляксея Валкоўскага, „Царкоўна-гістарычнае і статыстычнае апісанне Чарнянскай царквы і прыхода", рукапіс). Існаванне царквы даказваюць таксама матэрыяльныя сляды:

— фрагменты фундамента, што былі адкрыты царкоўным брацтвам у 1886 г.,



*Царква Пакровы Божай Маці ў Чорнай-Царкоўнай.*

прадстаўляюць тут могілкі вёскі Чорная-Вялікая. Шмат цікавага ды інтрыгуючага можна знайсці таксама і ў Чорнай-Царкоўнай, вёсцы, на спазнанні якое мы цяпер спынімся.

Назву вёскі прадвызначыла, пэўна, рэчка Чорная, што праплывае побач. Летам яна маláводная, вясною затое крутая і вірлістая. Ад таго і атрымала іншую назву — Хітрая. Другая частка назвы сяла гаворыць нам пра царкву Пакровы Божай Маці, што тут знаходзіцца. Яе ўзнікненне можна спалучыць з заснаваннем самога сяла. Першыя весткі пра Чорную паходзяць з 1434 г. Калі, аднак, прагляну́ць вынікі археалагічных раскопак на могільніках, можна здагадвацца, што пастаянна жылі тут людзі ўжо ў XI—XII ст.ст.

У гэты перыяд на Падляшша дайшло ўжо святло хрысціянства, пачалі ўзнікаць першыя праваслаўныя храмы (Бельск, Драгічын, Мельнік). Узнікалі яны таксама і ў меншых пасяленнях. Так магло быць і ў Чорнай. Да сёння тутэйшыя людзі паказваюць на ўрочышча, узгорак — „Цэрквіско", што знаходзіцца ў 1,5 км на паўночны ўсход ад сяла. Паводле народнага падання, некалі стаяла тут царква з асобнай

— медзяны крыжык з выявамі Ісуса Хрыста і сімваламі чатырох Евангелістаў, знойдзены тут жа ў 1888 годзе.

Ёсць таксама сведчанні, што быў тут некалі выараны вялікі жалезны крыж.

Як бачым, нямала фактаў сведчыць пра існаванне царквы на „Цэрквіску". Можна тут дадаць яшчэ, што 200 метраў на поўнач ад урочышча, на другім узгорку, былі таксама ў 1886 г. адкрыты сляды штучна ўпарадкаваных каменняў.

Цяжка сказаць, у якім годзе прабіў апошні звон на „Цэрквіску". З дакументаў вядома, што ў 1573 г. царква стаяла ўжо на сённяшнім месцы, напрыканцы сяла, з боку вёскі Сямёны. Дакумент гэты быў выстаўлены Варварай з Хадкевічаў Кішчынай. Акрэсліваў ён правы царквы на зямлю, дазваляў царкве карыстаць з кціtарскіх лясоў, „курыць" віно, варыць піва і ў святы збіраць таргавое. Дакумент у арыгінале не захаваўся да сёння. Успамінаюць пра яго „Візітацыі" царквы за 1757, 1789, 1804, 1818 ды 1819 гады.

У XVI ст. Чорная-Царкоўная знаходзілася ў прыватных руках. Гэтым

( Працяг на стар. 6 )

## ФІНАНСАВАЕ СТАНОВІШЧА БГКТ

Галоўная рэвізійная камісія БГКТ правяла 8 сакавіка 1992 г. сваё чарговае пасяджэнне, якое было прысвечана разгледжанню фінансавага становішча Беларускага таварыства ў папярэднім 1991 і пачатку гэтага года, а таксама выкананню пастановы XI З'езда. Рэзультаты вырашана падаць да ведама чытачоў „Нівы" з увагі на пашырэнне неадказнымі дзеячамі іншых беларускіх арганізацый вестак аб нейкім аплыванні арганізацыі ў багацце на базе датацыі Міністэрства культуры і мастацтва.

Уважліваму аб'ектыўнаму чытачу дастаткова было інфармацыі (спозненай на не менш паўгода) ў камунікаце ўспамянутага міністэрства, а змешчанага ў „Ніве" н-р 6 за бягучы год. У ім успамінаецца, што ў карысць беларускай грамадскасці ў Польшчы перадказана 1520900 тысяч злотых, у тым ліку на культурную дзейнасць БГКТ 200 млн. зл. І больш нічога! Хапіла б іх на выданне аднаго беларускага календара або пакрыццё коштаў запрошаных з Беларусі калектываў і дэлегацый, або чыншаў за адзін толькі будынак ГП. Але вернемся да пасяджэння.

На ўступе сцверджана, што ўмовы працы БГКТ пасля апошняга пленарнага пасяджэння (20.X.91), на якім былі зменены намеснік старшыні і сакратар Галоўнага праўлення, былі вельмі неспрыяльныя. Цэлы мінулы 1991 год характарызаваўся татальным недахопам фінансавых сродкаў. Многія напрамкі дзейнасці з увагі на гэта не рэалізаваліся. Стварылася да таго атмасфера неакрэсленай бліжэйшай будучыні арганізацыі. Прыняты на ўспамянутым пленуме напрамак паяднання ўсіх дзеянняў беларускіх арганізацый на Беласточчыне не прынёс жаданых вынікаў.

Адыход В. Стахвюка з пасады сакратара меў супакоіць асяроддзе. Сталася наадварот. Узраслі з яго боку ды іншых лідэраў БДА атакі на ўлады БГКТ, на паасобных дзеячоў, на цэлыя галіны дзейнасці, стала заўважацца яўнае перашкаджанне супрацоўніцтву з мясцовымі ўладамі і ўстановамі ў Рэспубліцы Беларусь. Былы сакратар ГП пачаў хварэць ад кожнага дасягнення БГКТ. ГРК не ўпаўнаважана да ўладкавання суадносін паміж арганізацыямі, але лічыць, што ГП і яго прэзідыум ізноў павінны разважыць праблему суадносін, асабліва з Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем, як пачынальнікам „вайны нерваў", а таксама супрацоўніцтва з маладзёжнымі арганізацыямі і літаб'яднаннем „Белавежа".

Фінансавае становішча БГКТ было ў 1991 годзе самае крытычнае ад пачатку яго заснавання. Апрацаваны прэлімінар выдаткаў складаўся з двух частак: выдаткаў на ўтрыманне таварыства — 690 млн. зл. і на фінансаванне культурнай дзейнасці — 750 млн. зл. **Фінансаў на першую частку** не атрымалі зусім. А патрэбы склалі: 50 млн. зл. у месяц на пакрыццё чыншаў за памяшканні ў Беластоку, Бельску, Варшаве, Дуброве-Беластоцкай і

( Працяг на стар. 5 )




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ

**Частка X**

Апошні абшар нашых разважанняў датычыць Беласточчыны. Тут ніякай евангелізацыі праводзіць не трэба. Беласточчына не агорнута атэізмам. У пасляваеннай Польшчы ніколі не вялося савецкага тыпу змагання з рэлігіяй. І таму мяне вельмі здзівіла інфармацыя, якую пачуў я месяц таму назад у Гайнаўцы. Паводле гэтай інфармацыі, адзін з гайнаўскіх праваслаўных духоўных сказаў, што нарэшце яму і яго верным ніхто не забараняе маліцца. Памойму, такіх забаронаў як на Гайнаўшчыне, так і ў іншых раёнах Беласточчыны ніколі не было. Улады не толькі не закрылі ніводнай царквы, але і фінансава памагалі прынамсі тым цэрквам, якія залічаны да архітэктурных помнікаў.

Гавару гэта між іншым, бо не абарона рэлігійнай палітыкі былых польскіх урадаў з'яўляецца маёй мэтай. Калі нехта хоча яе крытыкаваць, дык няхай крытыкуе. Мяне асабіста цікавіць стан праваслаўя на Беласточчыне, дзе практычна паняцце праваслаўны пакрываецца з паняццем беларус. Колькасць праваслаўных—рускіх ці праваслаўных–украінцаў на Беласточчыне невялікая. У такой сітуацыі хацелася б, каб Праваслаўная Царква на Беласточчыне мела беларускі нацыянальны характар. Аднак, нельга сказаць, што тыя духоўныя, якія маюць на гэту справу іншы ад нашага пункт гледжання, пазбаўлены ўсялякай рацы.

Мабыць, поўную рацыю маюць тыя, хто даказвае, што праваслаўны епіскапат у Польшчы ў ніякім выпадку не можа атаясамлівацца з беларускасцю. Прадстаўляе ён не толькі праваслаўных—беларусаў, але таксама праваслаўных—украінцаў, праваслаўных—лэмкаў, мабыць, яшчэ іншыя праваслаўныя нацыянальныя групы. Цяжка было б, калі б у такой сітуацыі агульнапольскія царкоўныя ўлады атаясамліваліся толькі з адной нацыянальнасцю.

Тым, што зараз скажу, у нейкай ступені запярэчу ўсяму таму, што сказаў дагэтуль у цыкле „Рэлігійныя дылемы". Справа ў тым, што, прапагандуючы ідэю свабоднага спаборніцтва розных веравызнанняў на Беларусі, не прапагандую такога спаборніцтва на Беласточчыне. Іншасць нашай сітуацыі заключаецца ў тым, што тады, калі на Беларусі існуе па сутнасці „чыстае поле", на якім можна свабодна сеяць зерні розных рэлігій, дык на Беласточчыне ўжо даўно ўсё засеяна і няма тут голай зямлі, якую можна ўзяць толькі сабе. Рэлігійная шахматная дошка застаўлена тут поўнасцю фігурамі, якіх няма куды перасоўваць. Парушэнне пазіцыі Праваслаўнай Царквы давяло б да вялікай і грознай дэстабілізацыі. Усякая спроба парушэння пазіцыі Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне ў карысць якой-небудзь іншай рэлігіі абазначала б агонь, падложаны пад кожную царкву, кожную парафію, кожную мясцовасць і амаль кожную сям'ю. І рабіць нам гэтага ў ніякім выпадку нельга. Наадварот, трэба ўмацоўваць існуючы стан рэчаў. Зрэшты, трэба памятаць яшчэ аб адной вялікай небяспецы. Маю на думцы паланізацыю. Калі толькі будзе скранута з месца пазіцыя Праваслаўнай Царквы на Усходняй Беласточчыне, паланізацыя беларускага насельніцтва пойдзе наперад імклівымі тэмпамі. Некаторыя асобы, якім я прадставіў гэты пункт гледжання, запярэчвалі, гаворачы, што нішто такое не станецца, бо вядома ж, што Праваслаўная Царква не адстойвае беларускасці, а многія яе высокапастаўленыя прадстаўнікі публічна заяўляюць, што яны палякі. Усё ж такі я адстойваю такі пункт гледжання, што Праваслаўная Царква ёсць аб'ектыўна, можа, не заўсёды свядомым, але рэчаісным абаронцам беларускай самастойнасці і тоеснасці. Зрэшты, ёсць праваслаўныя святары, якія поўнасцю свядома атаясамліваюцца з беларускай свядомасцю і дзейнічаюць публіцыстычна і навукова на беларускай ніве. Будзем верыць, што эвалюцыя Праваслаўнай Царквы на Усходняй Беласточчыне будзе ісці ў напрамку беларускасці, а тэмпы гэтага працэсу няхай вызначаюцца не такімі свецкімі людзьмі, як я, а ўладамі самой царквы.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*****************************************************************************




**Прэзідэнт Украіны Леанід Краўчук** заявіў, што ён дамовіўся з прэзідэнтам Расіі **Барысам Ельцыным** наконт стварэння камісіі для нагляду за ліквідацыяй нуклеарных боегаловак. У састаў камісіі ўвойдуць таксама **Беларусь і Казахстан**, на тэрыторыі якіх знаходзіцца атамная зброя.

**„Пахаладжэнне польска-літоўскіх адносін** — гэта факт, — сказаў **Яцэк Чапутовіч** з Міністэрства замежных спраў. Непасрэдным вынікам гэтага будзе адтэрмінаванне прац над польска-літоўскім трактатам і гранічным дагаворам". МЗС склала пратэст у справе адтэрмінавання самаўрадавых выбараў на тэрыторыі, населенай палякамі, а таксама „новых дзеянняў літоўскіх улад, якія могуць давесці да горшай сітуацыі польскай меншасці".

**Дэлегацыя Рады палякаў у Чэха-Славакіі** на чале са старшынёю **Багуславам Хваёлем** была прынята прэм'ер-міністрам **Янам Альшэўскім**. Тэмай перамоваў было імкненне да больш актыўных міжпарламенцкіх кантактаў абедзвюх дзяржаў і паскарэнне ажыццяўлення трактата аб добрым суседстве.

**Наша рэдакцыя** адзначыла 35-ую гадавіну паэтычнага дэбюту **Віктара Шведа** на старонках „Нівы". З гэтай нагоды адбылася сяброўская сустрэча Юбіляра з рэдакцыйным калектывам. Паэта віншавалі таксама дырэктар Аддзела грамадскіх спраў Ваяводскай управы **Эўгеніюш Біль-Ярузельскі** і сакратар беластоцкага Аддзела Саюза польскіх літаратараў **Крыстына Канэцкая**.

На пачатку мінулага года **арганізацыя Ars Christiana** перадала ў дары Касцёлу на Усходзе (Літва, Беларусь, Украіна) літургічныя прадметы вартасцю ў 1,2 мільярда злотых. На пераломе 1991/1992 г. перададзены быў падобны дар вартасцю амаль у 2 млд. зл. Зараз у самай вялікай Мінска-магілёўскай архідыяцэзіі (сягае яна аж да Уладзівастока) працуе 150 рымска-каталіцкіх святароў, у тым ліку 69 з Польшчы.

Дэкрэтам "Totus tuus Poloniae Populus" папа **Ян Павел II** рэарганізаваў польскую касцельную адміністрацыю. Зараз у Польшчы знаходзіцца 13 мітраполій і 40 дыяцэзій. Згодна папскаму рашэнню створана Беластоцкая мітраполія, у састаў якой уваходзяць Беластоцкая архідыяцэзія і Ломжынская і Драгічынская дыяцэзіі, а беластоцкі біскуп **Эдвард Кісель** пераведзены ў сан арцыбіскупа-мітрапаліта.

**У беластоцкіх сем'ях** адпачывала пяцьдзесят дзяцей з Гродзеншчыны. Арганізатарамі адпачынку былі "Wspólnota Polska" і Клуб каталіцкай інтэлігенцыі. Дзеці з Беларусі на працягу дзесяці дзён пазнаёміліся з горадам, наведалі кінатэатры, вучыліся танцаваць і ўдзельнічалі ва ўроках польскай мовы.

**Кніжка Адама Ежы Сохі** „Я спаў з Тымінскім" не заваявала папулярнасці на чытацкім рынку і залежваецца ў магазінах. Выдавецтва вырашыла непрададзеныя экземпляры перадаць польскім арганізацыям на Беларусі як дар. Гэту ініцыятыву, праўдападобна, не падтрымала тамашняя цэнзура.




### ВЯСНА. АБУДЗІЛАСЯ ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

З надыходам вясны на знакамітай плошчы Незалежнасці, якая знаходзіцца якраз насупраць Дома Урада, зноў пачаліся палітычныя баталіі.

11 сакавіка тут наладзілі свой мітынг настаўнікі школаў і выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў, патрабуючы ад урада і парламента павышэння заробку. З такім жа лозунгам на наступны дзень выйшлі на галоўную плошчу беларускай сталіцы шахцёры. Амаль тыдзень пад бел-чырвона-белым штандарам дзяжурыць на плошчы ініцыятыўная група па збору подпісаў у падтрымку рэферэндуму па пытанню аб адстаўцы цяперашняга парламента. Справа ў зборшчыкаў подпісаў і тут, на плошчы, і ўвогуле на ўсёй Беларусі ідзе няблага — ужо каля 200 тысяч грамадзян рэспублікі падтрымалі ідэю беларускіх дэмакратаў.

15 сакавіка на плошчы Незалежнасці (паіхняму Леніна) сабраліся прыхільнікі камуністычнай ідэі. Артадоксы выступілі за адраджэнне былой савецкай імперыі, і абралі тут жа сваіх дэлегатаў на забаронены з'езд былых народных дэпутатаў былога СССР.

### АДЗІНЫ СВЕДКА — ЛЕНІН

У гарадскім пасёлку Клічаў, што на Віцебшчыне, здарылася трагедыя з удзелам... Леніна. Рабочы мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркі (з этычных меркаванняў прозвішча небаракі называць не будзем) павесіўся на помніку Леніну. Пакуль што невядома, чаму самазабойца вырашыў развітацца з жыццём менавіта з дапамогай камуністычнага ідала. Ці ад шчырай адданасці, ці то ад смяротнай нянавісці, аб гэтым застаецца толькі здагадвацца.

### ЗА РАДЗІМУ ЛЮБІМУЮ ЖАХ

Здаецца, на палітычнай арэне рэспублікі ўсталявалася згода. Днямі ў Менску па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) быў утвораны Антыкрызісны камітэт. Пад яго харугвамі аб'ядналіся лідэры ўсіх палітычных партыяў і рухаў Беларусі, а таксама кіраўнікі рэспублікі. Не зусім звыкла бачыць у адной камандзе, напрыклад, лідэра БНФ Зянона Пазьняка і прэм'ер-міністра Рэспублікі Вячаслава Кебіча, але ж, на думку таго ж Пазьняка, зараз трэба спыніць палітычныя сваркі, настаў час кансалідацыі. Бо над Беларуссю павісла знешняя небяспека. Падзеі ў Расеі набываюць непрадказальны характар, пагроза ваеннай дыктатуры зноў лунае над прасторамі былога СССР. Таму занепакоеныя лёсам Бацькаўшчыны ўсе грамадскія рухі (за выключэннем камуністычнага) вырашылі аб'яднаць свае сілы з дзяржаўнымі арганізацыямі.

Узначаліў Антыкрызісны камітэт Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Вячаслаў Кебіч.

### СПАДАРЫ, НАС НАВЕДАЛІ РЭВІЗОРЫ

Тры дні ў Менску знаходзілася спецыяльная камісія Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Пад час візіту госці вывучалі палітычнае становішча ў Рэпубліцы, высвятлялі, наколькі шчыра выконвае Беларусь умовы Хельсінскага Пакту. З гэтай нагоды „рэвізоры" сустракаліся не толькі з дзяржаўнымі дзеячамі, але і са святарамі праваслаўнай і каталіцкай царквы, прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў, і нават наведалі Менскую турму.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**






# ПАДЗЯКА

Сардэчна дзякуем старшыні Канфедэрацыі незалежнай Польшчы, старшыні і сакратару Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, прэзідэнту і сакратару Беларускай цэнтральный рады БНР у Аўстраліі і Генеральнаму сакратару Беларускай асацыяцыі ў Аўстраліі, якія віншавалі нас з 74-мі ўгодкамі абвяшчэння незалежнасці Беларусі.

**РЭДАКЦЫЯ**

### РОЗДУМЫ АБ ПАГРАНІЧЧЫ КУЛЬТУР

**У суботу (4 красавіка г.г.)** а 10 гадзіне ў памяшканні Гуманістычнага аддзялення Філіяла Варшаўскага універсітэта (вул. Лінярскага 4, зала н-р 47) адбудзецца навуковая сесія на тэму: „Чалавек і вартасці на памежжы культур". Яе арганізатарамі з'яўляюцца: Выдавецкі дом „Тотус", Беластоцкі аддзел Літаратурнага таварыства імя Адама Міцкевіча і Кафедра тэорыі і антрапалогіі літаратуры.

На сесіі прадбачваюцца наступныя даклады:

— Эльжбета Феліксяк: Чалавек і вартасці на пагранічы нацыянальных культур.

— **Сакрат Яновіч: Двухмоўны пісьменнік у Польшчы (сітуацыя культурнага пагранічча).**

— **Тэрэса Занеўская: Свет пагранічча ў лірыцы Яна Чыквіна.**

— Малгажата Гаўрыхоўская-Совуль: Польска-украінскі канфлікт у творах Уладзіміра Адаеўскага.

— Чэслаў Дзеканоўскі: Пагроза для вартасцей літаратуры пагранічча на прыкладзе творчасці Чэслава Мілаша.

— Рышард Ходзька: Пісьменнік у час метамарфозы.

Арганізатары запрашаюць усіх зацікаўленых.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**

# Літаратурны лісток №5

## СУМОЎЕ

З нагоды надыходзячага найбольшага праваслаўнага свята, Свята Пасхі, Вялікадня, Уваскрасення Сына Госпадняга, упершыню прапануецца ўвазе чытачоў „Нівы" пачытаць на гэты раз так званыя духоўныя творы, у якіх паэты намагаюцца спасцігнуць сваім чалавечым розумам і сэрцам розныя праявы сутнасці і дзеяння Вышэйшага.

З вядомых прычын беларускіх духоўных твораў у апошніх шасці дзесяцігоддзях не пісалі ўвогуле або паяўлялася іх так мала, што не хапала іх нават для вузкага круга людзей. Толькі вось зараз выразна выдзяляюцца на фоне ўсё яшчэ моцна сацыялагізаванай ды палітызаванай беларускай вершатворчасці такія паэты, як Зьніч (Алег Бембель) і Галіна Тварановіч.

У польскай літаратуры пісанне духоўных вершаў мае сваю даўнюю і багатую традыцыю. Такімі творамі стагоддзямі напаўнялі скарбніцу нацыянальнай культуры многія паэты, не толькі свецкія, але і паэты-святары. Ужо амаль стала класікай для польскага чытача творчасць ксяндзоў: Караля Вайтылы, Януша Пасерба, Яна Твардоўскага, Паўла Гайнтша, Яна Соханя і многіх іншых (прапаную вам некаторыя з іх вершаў у маім перакладзе).

Увазе чытачоў прапаную таксама творы Сакрата Яновіча і Уладзіміра Місеюка — нашых беластоцкіх літаратараў.

ЯН ЧЫКВІН

### КАРАЛЬ ВАЙТЫЛА

*З цыкла*
*„Песня пра Бога схаванага"*

Ён — Прыяцель. Пастаянна вяртаешся думкай
да той раніцы зімовай.
Колькі часу вось верыш і ведаеш напэўна,
аднак здзіўленне тое не дае спакою.

Схілены пад лямпай, што высока свет у сноп звязала,
Твар свой ўгору не падносіш, так лягчэй —
— і не ведаеш ужо, ці там ён, там далёка ўбачаны табою,
ці мо тут, у глыбіні тваіх заплюшчаных вачэй —

Там ён. Тут няма нічога апрача дрыжання,
апроч слоў, вырваных з нябыту —
ах, яшчэ ж асталася саломінка таго здзіўлення,
якое будзе вечнасці цэлым зместам сакавітым.

### УЛАДЗІМІР МІСЯЮК

* * *

*Калі забуду я цябе, Іерусалім,*
*няхай забытай будзе мая правая рука...*

Народзе мой,
успомні плач яўрэяў, пражыўшых вавілонскую няволю,
мінулае сваё ўспомні, сваю ліхую долю,
заглянь у глыбіню душы.

Народзе мой,
цябе твае князі й можныя, ратуючы багацьце, апусьцілі
і, беднага, чужынцам у няволю аддалі,
а ты адступствам не зграшыў.

Народзе мой,
ад веку мову ты й веру захаваў, як птушка свае крыльлі,
каб даляглядам цешыцца ў небе сінім
і блізка быць свайго Тварца.

Народзе мой,
хоць не маючы свабоды, ты ўзгадаваў паэтаў,
што славяць цябе на ўсе старонкі сьвету,
твайго аратага, і сейбіта й касца.

Народзе мой,
калі ўглядаешся цяпер на твае мястэчкі й пасёлкі,
так рэдка ўбачыш стройныя старэнькія царкоўкі,
пачуеш малітоўны звон.

Народзе беларускі,
чаму так лёгка ты дазволіў зьняць крыжы зь іх дахаў,
чаму, пытаюся ў цябе зь вялікім жахам,
мяняеш мову, як хамелеон?

Народзе мой,
загінуў Вавілон і Македонія, і Рым распаўся,
але яўрэйскі люд, хоць і зьняволены, сабой застаўся,
не адступаючы Закону.

Народзе праваслаўны,
жыве на сьвеце чалавек не адно для хлеба,
родную мову шанаваць і верыць ў Бога трэба,
каб не затаптаў нас вораг.

### ЯН ТВАРДОЎСКІ

## МІЖ ГОЛУБАМ І АРНІТАЛОГІЯЙ

Колькі ж яшчэ святой свабоднай прасторы
неспадзевак з настаўленым вухам
колькі яшчэ таго найпрасцейшага і не палічанага
хоць бы ружовай мальвы звычайнай быліцы белага крываўніка
арэшкаў граба і жалудоў для дзікаў
колькі яшчэ месца на малітву
колькі месца на пакуту —
колькі аказіі для святой споведзі са сціснутым у горле маўчаннем
колькі даслоўнасці сэрца
колькі каморак для найму —
між голубам у сонцы — і арніталогіяй
між колерам чырвоным і цагляным
між канём светлагнядым і яблыкападобным
між рэзедой дзіваннай на жоўтай ножцы — і батанікай
між святымі запаведзямі — і жывым сумленнем
між вялікімі навукамі пра Бога — і Богам

## ЛІСТ ДА МАЦІ БОЖАЙ

На пачатку хачу сказаць што жывем па-старому
жоўтая сітаўка цешыцца сваёй чорнаю дзюбай
ласось вяртаецца ў раку дзе нарадзіўся
мурашкі ліжуць ножкі хіба ўжо па звычцы
сарна лечыцца мальваю і ўжо кашляе меней
а лес такі зноў прыгожы што стаіць нібы з'ява
пчолы не знаюць Шапэна але самі ствараюць канцэрты
смерць як заўсёды нізка кладзе на зямельцы
святым стацца тут можна ўжо на падворку
сыплючы курам зярняты па-старасвецку
найхарашэйшы над рэчкай зноў ліпень у Польшчы
і прыгажосць тады блізка калі час наш мінае
ніводная рыба не траціць бліскучае лускі
сарока з хвосцікам вузкім досціп адзін паўтарае
рэчы трымаюць у памяці цені памёршых
маці маю памятае імбрычак разбіты
для салаўя ў чэрвені кожная ноч замалая
таму што з веры ў каханне цела свайго не шкадуе
спявае што сэрца жывое непадуладнае смерці
бусел стаіць на адной назе як раней і чакае

пішу гэты ліст бо ўбачыць Цябе не маю надзеі
аднак мне здаецца што часам чую Тваю прысутнасць
бо адкуль раптам явіцца шэпт калі засынаю

### САКРАТ ЯНОВІЧ

## СУПРАСЛЕЎСКІ ТРЫПЦІХ

I

Жылі-былі людзі тут і заўсёды, як дзень залатаблакітны прыходзіць ды ноч зорная настае. Верылі ў дарунак дажджоў у веснаполі на ўмалот зернехлебны і ў ласку бору жывічна-мядовага, і ў рэчкі бруіста-рыбныя. А яшчэ ведалі напэўна, што без працы аніштo не спорыцца; сваім жа мазалём — не крыўдаю чужою — народы ёсць слаўныя. Выходзілі прашчуры нашы з сярпом маладзіковым на нівы ў Юр'еў абход бласлаўлёныя, пакланяючыся Усявышняму за сяўбу дабрачасную, за калосcе буйнае, і за тое таксама, што пот ненадарэмны. Быць патрэбным не аднаму сабе — гэта даступнасць да вышэйшага сэнсу існавання непустога і да шчаснасці даўгавечнае на ўсе леты суджаныя.

Як без вады ўсякае жывое прападае, а крыніцы яе з глыбіняў тхланных бяруцца, так і з мудрасцю, пачатак якое ў Слове, а Яно было сказана, і навучаліся Яму шчыра-незабыўна. З Ім гэта ж агоралі злыбеды і нашэсці, пакуты розумаў слабых ды сэрцаў упалых, не даўшы ў ганьбу і няволю род наш старажытны, дум ягоных высокія памкненні архангелам белакрылым ахаваўшы. І губляючы Яго ў сумятні будзённасці няўважлівай, калі подых мяртвоты твар холадам абдасць, спасу шукаем, светлячка алтара нязгаснага, і пісанне божакніжнае цалуем губамі спажывы духоўнае прагнымі.

Колькі ні нараджаемся ды адраджаемся, гарыць зорка адна тая над намі, і за ёю дарожымся мы ў старонне супраскае, да Цябе — Віфліеме Русі маёй Белай.

II

У пустэльні ціхамірнай Госпад Бог пасяліўся, на самагрудзе стромістым у даўніну нецяперашнюю. Паміж лясоў неаглядных святлом заззяла нештадзённым у гэтай краіне нам панурай, ад людства адрынутай. Святыня Добрай Весці ўзвысілася ў падхмар'е смутнае, на вякі адвечныя, ад тады і назаўжды паднябесныя. Праяснеў жа воблік продка, лёсам зацюканага, ад беспрасвецця ўдзічэлага ў жыццё малавернае. Душа яго акрыяла, сэрца птушкай забілася, голубам узляцела анельскім, а ў вачах — дабрыня расквітнела васільковая. Цуд у ім, чалавека ў чалавеку, збыўся, самы чаканы з прычаканых, вялікі з найвялікіх — хрыстападобны!

( Працяг на стар. 4 )

ГАЛІНА ТВАРАНОВІЧ

* * *

Не натоўп — зморанае, разгубленае чалавецтва
узыходзіць на ганак.
Вось-вось бразне клямка.
Расчыняцца дзверы.

У некалі абяцаны ратунак
нарэшце мы ўваходзім.
Толькі — ці ўсе?

Хрысце, даруй нам, няверным, нямоглым,
за бясконцасць пакуты Твае...

* * *

З дня ў дзень
выпрабоўваю цярпенне Госпада.
І хто?
Я — брыдкая кропля
нягеглае плоці.
А Гасподзь —
міласэрны і доўгацярплівы Пакутнік —
з Маці Прачыстай Сваёй
ахінаюць мяне
Покрывам ціхамірнасці ўдзячнай,
каб мяне ад мяне ж
абараняць і апраўдаць
перад Бацькам Нябесным...



ЯНУШ СТ. ПАСЕРБ

## АНГЕЛ УВАСКРЭСЕННЯ

*Дануце Шумскай*

ангел Вялікай Нядзелі бледны і сном недаспаны
яшчэ да ютрані ўстаў вельмі вельмі рана

і ляцець мусіў хутка з агромна чыстых даляў
і напружваць сілы пакуль камень вялікі не зваліць

не было б гэта за трудна і для самога Ісуса
але сказалі яму дык адваліў і сеў на камені ў скрусе

бляск фантанам шугнуў і неба ўшыр залунала
і ў святле нібы кроў чырвоным Галгофа стаяла

засланіў вочы далоняй ды зыркнуў цішком на хвіліну
за ўсіх нас тое зрабіў быў жа сведкам адзіным

потым прыбраў у сярэдзіне і паскладаў дбайна хусты
слухаў вартаўнікоў як клянуць што ў магіле той пуста

пабеглі нарэшце у горад напраскі праз Кальварыю
ён не мог адыйсці шчэ бо чакаў на тры Марыі

і было не да радасці тут на галаве яго спраў безліч новых
баяўся што спужаюцца яны і што тады ім мовіць

і пачалі лямантаваць і па чарзе пытацца абамлела
параіў ім спаткацца перш з Пятром а потым йсці у Галілею

яшчэ мо з імі трохі пабыў бы але ж не мог тут сядзець бясконца
другі раз гэтага ранку велізарнае ўзыходзіла сонца

### СІНАГОГА УСПЕННЯ

Тут трывае прысутнасць
тут Невыражальны двойчы
па-яўрэйску і па-арабску
Ёсць
бо Ніштo яго не выяўляе

маўчаць аб ім у пустцы
гэбрэйскія літары
шэраружовыя каменныя карункі

калі ты ўжо з усяго ачышчаны
можна й табе прылучыцца

### ПСАЛОМ

як мяне засвеціш калі табе я згасну

акіян жуе ракавіны і каменне
шорсткім языком злізвае пясок
не знаю ці тады больш трывае ці мінае
заўзяты ў сваім глухім тварэнні

а мяне тут няма
я — па-за тым
на другім баку сонца ляжаць мае косці
і вецер меле іх крышачы канстэляцыі

як мяне засвеціш калі табе я згасну

ЗЬНІЧ

## СЬВЯТЫ ПОКРЫЎ НАД БЕЛАРУСЬСЮ

Птушка белая над Краінай сіняй —
то ахова наша і сіла...
гэта дух Сьвятой Еўфрасіньні...
гэта слова Сьвятога Кірыла...

то ахвярнасьць Сафіі Слуцкай...
і пакутнікаў Вільні даўняй...
то Сьвятыя зямлі Беларускай
да Хрыста ўзышлі пакаянна...

Птушка белая — па-над Краям
сінім, —
барані нас ад чорнае былі...
хай асьвеньцяць Боскія сілы
нас, што ў немачы саграшылі...

* * *

вякі плывуць
а Ён — раскрыжаваны,
жывы...
ў крыві цячэ
цьвікоў іржа...
і род людзкі
лянівы
апантаны
ня мае сілы
зьняць Яго
з крыжа...

### БРАТАМ-САПЕРНІКАМ

*(Рыма і Грэка) Каталікам, Пратэстантам, Праваслаўным*

... крывёю ахрышчвалі Крыўю
ня раз —
мы сталі барвоваю поўняю...

Браты, памятайма: бяз кожнага
з нас
гісторыя Крыўі — няпоўная...

ПАВЕЛ ГАЙНТШ

## ШУКАЮ ЦЯБЕ, БОЖА...

Шукаю Цябе з болем, Божа,
на сцежках жыцця, малых і вялікіх,
клічу маўчаннем, клічу трывогай
маёй, і жалем, і крыкам.

Бягу за Табою, калі Ты ідзеш
пад цяжкаю ношаю крыжа
нястомнымі крокамі вышай,
сваю перамогшы на векі смерць.

Дазволь прыбегчы й прыхіліцца
чалом да дрэва Тваёй пакуты,
і маім дазволь жа гора-мукам
у кроў, агонь перамяніцца.

Ды вось іду такі збалелы
І згублены ў вірах варожых.
Не дазваляй мне мукі адрачыся,
не дазваляй мне, Божа.

## ПРЫСУТНЫ

*W noc jedną pełną ciemności...*
*Juan de la Cruz*

Прысутны ў гэтым слове,
Хоць Цябе не клікаў.
Гарыць мне Табою
Часцінка кожная мовы.
Цела Тваё — слова
І слова Тваё — цела,
Ценем змяркання,
Пахам сасновым.

Кахаю, дык ёсць я,
Хоць мне штораз
Цямней...

Тваё гэта
Святло
Гарыць ува мне.

БЭАТА АБЭРТЫНСКАЯ

* * *

О, божая цярплівасць! Пашкадуй нас! Гэту, напраўду, галоту!
Беднае стада людзей! Гэтых сэрцаў бясплодную глебу!
Калі першы голад насыцім акрайцам ячменнага хлеба,
Бяздумна ласак абломкі скарэй топчам ў балота.

## ЛЮДЗІ НА СВЕЦЕ...

Людзі на свеце! Ах, што за Збожжа!
Аж у аборы светла й прыгожа.

Што за ўмалот? Якія Зярняты?
Як бы хто сонца сыпаў лапатай...

Цуд ў галаве не месціцца гэты?
Бог у жолаб аўсом сыпнуўся свету,

На хлеб-жыццё, спакой і дабро,
Самога Сябе аддаў на Аброк.



САКРАТ ЯНОВІЧ

# СУПРАСЛЕЎСКІ ТРЫПЦІХ

( Працяг са стар. 3 )

Зямля тут наша айчынная, да крыві касцей родная, са светам з'яднаная ахвярай падіконнаю, адданасцю ўсёцэласнай. Быць нам на ёй, як Госпаду ў вышынях, як памяці ў людзях, як несмяротнасці ў бясконцасці неспасцігла.

Да Супраслі я іду, да Цябе — Іярдане Русі маёй Белай.

III

Ішоў час агромністы ў край наш забыты, векаванню тубыльчаму надаючы значэнне непрыгуменнае, не адно застольнае. Лясун выглянуў урэшце з ялінаў кашлатых, з ягаднікаў чарнічных сыйшоў, як і заполянік з гоняў жытнёва-далечных, каб зрокам душэўнасці абуджанай угледзець, што быццё чалавекападобнае ёсць не паэзвярнаму выпадковае. І не лысая гара, што між рачулак з дрыгвянікамі, з небам гаворыць ды не князь у гародніцы спадаром над спадарамі; не Пярун маланкаю паліць, грымотна ў навальніцу гайсаючы.

Богі прыдуманыя, створэнні бястварыя, пагрозныя неўгамонна ўсе да апошняга валадарылі фікцыяй няўмольнаю ў апраўданне язычніцкае ад свету незразумення. Каморнае цемені дамавіковае баяліся, і водарасцяў русалчыных у купанне жнейнае ў плыні зеляністай пад стромаю залужнай. Ад усякіх уцякаць, а жа ж нікому не давярацца ўзвычаеныя слухалі навуку Хрыстовую, як байку нерэальную, таму і прыгожую... Ажно адкрыліся ўсцяж душы-сэрцы зацямнёныя, бы ў пагоддзе павяснелае, калі вербы маладалістыя суцяшальны знак абновы падаюць; рукі натруджаныя да іх галінак ажыўшых працягваюцца.

Ад тае пары што ні год вітаем мы Госпада, які дорыць нам узрадаванне зямное і задзіночанне ўсёпакаяльнае ў любові выбачальнай, хоць на памятны міг збаўляючы слодычна ад нянавісці пякотнае, усячыны непрыстойнае.

У тую часіну ў Супраслі быць мне ўквечанай, да Цябе я ў думках імчу — Іерусаліме Русі маёй Белай.




**28-06-1988 г.**

Учора — на прэм'еры дэкламатарскай інсцэнізацыі „Сьвятой ночы" Шаховіча (перакл. Леанчука). У „Бакалаўры"; каля пятнаццаці чалавек. Пагаварылі. Спектакль неблагі. У Беластоку нямала падобных, але... Даўней на такое відовішча збеглася б цэлая хмара, а цяпер ...

Леанчук агітуе мяне на арганізацыю Беластоцкага аддзела Саюза пісьменнікаў. Відаць, улады настайваюць, але да беларусаў не звяртаюцца, памятаючы, як было з Клубам ZLP?

**30-06-1988 г.**

Вырашана выдаваць беларускі непадцэнзурны часопіс!

Такі, даволі нечаканы, вынік сустрэчы, якую наладзіў у сваёй кватэры Антось Мірановіч (17–21.00).

Было нас чатырох: Антосеў брат Генік, Туронак і я (Антось рабіў занатоўкі).

Як зразумеў я, непасрэднай прычынай ініцыятывы Антося была сустрэча з Янам Кофманам у мінулую пятніцу (у доме Геніка Мірановіча на Засценках). Запрасіў ён і Латышонка, які не з'явіўся чамусьці... Меліся мы цяпер грунтоўна дарабіць недаробленае ў Biełaruskim resume. Антось пачаў сустрэчу ў гэтым духу, адначасна акцэнтуючы патрэбнасць пайсці далей за B.N.V., уключна да ўтварэння нейкай „нефармальнай" арганізацыі (так набраўся ахвоты, будучы ў Мінску).

Я не падтрымаў яго, лічачы, што для гэтага яшчэ не час (і да Resume няшмат можна або трэба дадаваць, таксама). Найлепей было б пачынаць усё тое з заснавання нейкага рэгулярнага часопіса... У інтэлектуальным сэнсе гэта ўжо рэальнае, аднак не вельмі відаць тэхнічныя шанцы.

Увесь бег сустрэчы вырашыў Туронак. Гістарычны вопыт вучыць беларусаў, што супрацоўніцтва з польскай патэнцыяй заканчвалася на агентурным узроўні. Ніколі вышэй гэткай інструментарнасці.

„З палякамі можам толькі палемізаваць, і столькі ўсяго!" — І Юрка перайшоў да ідэі заснавання часопіса (да якой яшчэ ў 83-м годзе пераконваў мяне Мікола; vide: „Archiŭny sšytak". Сказаў рэч для мяне сенсацыйную: тэхнічных перашкодаў не будзе! Абсяг? Абсяг усебеларускі, разам з эміграцыяй! Сітуацыя Беластоцкага краю спрыяе гэтаму.

Даў зразумець, што ўсю справу бярэ ён на свае плечы, а нас просіць матэрыяльнай ды аўтарскай (рэдакцыйнай) сталай помачы. У наступным годзе павінны з'явіцца першыя нумары (разлічвае ён на штоквартальны рытм).

Цудоўна! Брава, Юрка!!!

— Пра дэталі не пытаць. І пакуль што нікога не ўцягваць. Ды надалей выкарыстоўваць міф, што „усё нелегальнае ад Яновіча". Як заслонку.

Камень з грудзей! Хілае каранёўе Biełaruskaha Niezaležnaha Vydaviectva выпусціць буйнае лістоўе?! Дай Бог! Час неблагі, ліберальісцкі, як некалі ў пару „Нашай нівы" ... Старая расійская палітыка: ставіць беларускі плот ад польскіх уплываў. Юрка не памыляецца?

Знамянальная акалічнасць: „Krytyka" Кофмана і інш. часопісы ўжо публікуюць імянныя спіскі сваіх рэдакцыяў. Улады не рэагуюць. Адзінае, што ўчыняюць — гэта пагромы выяўленых тайных друкарняў, караючы за іх не судовымі працэсамі, а канфіскацыямі і высокімі штрафамі, як за недазволеную **матэрыяльную** вытворчасць.

У новым становішчы — гэты працяг B.N.V. не павінен пагражаць драматызмам накшталт перыпетыяў часоў „Biełaruskich Dakumentaŭ".

За Юркам стаіць неспакойны Мікола?

**01-07-1988 г.**

„Język, który staje się zbędny" — у сённяшнім „Кур'еры падляскім" гутарка з Шаховічам. Шмат праўды, але без мабілізацыі на барацьбу за выратаванне беларушчыны. Хоць, можа, і несправядлівы я тут ... Недаацэньваю пазітываў самое праўды? Яе добрага для ўсякае справы ўздзеяння?

**02-07-1988 г.**

Неспакоіць пачутае заўчора ад Юркі: у Мінску ўзнік беларускі каардынацыйны падпольны цэнтр з адгалінаваннем сюды, да нас... Няхай, але каб не правакацыйны!

**(Працяг будзе)**

*Тлумачэнні:*

*— Шаховіча — Міхась Шаховіч, родам з Сакоў, што каля Пасынак; былы журналіст „Нівы", беларускі пісьменнік з асяроддзя „Белавежы";*

*— утварэнне часопіса ўсебеларускага абсягу закончылася па сутнасці эпізоднай ініцыятывай, па прычыне неўзабаве наступіўшай дэмакратызацыі, ліквідацыі цэнзуры, а затым і камуністычнай сістэмы, у выніку чаго перастала быць праблемаю свабода слова і думкі.*

# ФІНАНСАВАЕ СТАНОВІШЧА БГКТ

**( Працяг са стар. 1 )**

Гданьску, 10 млн. зл. у месяц эксплуатацыйныя кошты і 58 млн. зл. у год — кошты тэлефонаў і карэспандэнцыі. Разам 778 млн. зл. Не праводзіліся ніякія рамонты памяшканняў, пакупкі мэбляў, абсталявання бюро і святліц, амаль не рэалізаваліся дэлегацыі ў арганізацыйных справах.

**На фінансаванне культурнай дзейнасці** атрымалі 200 млн. зл. З гэтага на непланаванае выданне спеўніка З. Фэдэцкага выдадзена 50 млн. зл. і за гэта адказнасць нясе Варшаўскі аддзел БГКТ, на Басовішча і два рэйды моладзі — 20 млн. зл. Апошніх 130 млн. зл. прызначана на агляды беларускай песні, дзіцячыя імпрэзы, утрыманне калектываў з Беларусі, выдавецтвы, на многа іншых мерапрыемстваў.

З уласных даходаў, якія склалі 260 млн. зл., пакрываліся найбольш неабходныя арганізацыйныя патрэбы. Выдаткаваны таксама невялікія ашчаднасці з папярэдняга года, паявілася, асабліва ў ганарарах за выданні, задоўжанасць. Трэба яшчэ адзначыць, што каля 300 млн. зл. у год склала зарплата, якая толькі ў канцы 1991 года пачала крыху змяншацца ў выніку ліквідацыі некалькіх этатаў. Раней заўвагі ГРК у кадравай палітыцы не цікавілі нікога.

Разгледжаны пытанні павелічэння ўласных даходаў. Дагэтуль гаспадарчая дзейнасць, аб якой многа гаварылася,не сарганізавана. З выкарыстоўвання аўтобуса і мікробуса „Ныса" атрымана ў 1991 годзе 20 млн. зл. чыстага даходу. Паводле ацэнкі сучаснага кіраўніцтва ГП, транспарт дрэнна прапагандаваўся, але зараз няма на экскурсіі вялікага запатрабавання, а на перавозках аматарскіх калектываў БГКТ аўтобус не зарабляе.

Разгледжаны таксама пытанні аплочвання складчын членамі БГКТ. У 1991 годзе сабрана разам 3025 тысяч зл. (гадавая складчына 120 зл.). Ад 1.I.1992 года ўстаноўлены пленумам складчыны на 24 тыс. зл., а для пенсіянераў і вучняў — як раней, 50%, г. зн. 12 тыс. Пры іх аплачванні трэба ўпісвацца на лісты складчын аддзелаў БГКТ. Напамінаем, што надалей існуе калектыўнае членства і таму можна звяртацца да ўстаноў з просьбай падтрымаць папярэдня традыцыі. Праўленне аддзела мае права арганізаваць даходовую імпрэзу і пакрыць складчыны сваім найбольш ахвярным дзеячам, вучням ці членам у цяжкім матэрыяльным становішчы. Паяўляюцца таксама спонсары з невялікімі сумамі ахвяраванняў да бюджэту на статутовую дзейнасць або на акрэсленыя мэты.

Разгледжана таксама выдаткаванне датацыі на выдаванне тыднёвіка „Ніва", якія склалі ў 1991 годзе 587 млн. зл. (у „Ніве" сума 578 млн. пададзена памылкова). У сучасным ашчадным гаспадаранні зніжэнне коштаў амаль немагчымае. Але, праўдападобна, зменены змест газеты і павышаная цана выклікалі змяншэнне зацікаўлення тыднёвікам сярод школьнікаў і дарослага вясковага насельніцтва. Няма таксама экспарту ў Рэспубліку Беларусь. У выніку таго зменшыўся тыраж выдання. Ён павінен быць адбудаваны.

ГРК запрапанавала разгледзець працу рэдакцыі „Нівы", у тым ліку пастулат нашай камісіі аб увядзенні „Царкоўнай старонкі", аб чым гаварылася ў папярэднім пакантрольным пратаколе.

Можна над вышэй сказаным задумацца: Міністэрства фінансуе мерапрыемствы, якія належаць да яго канстытуцыйных абавязкаў, але якія чамусьці выконвае БГКТ. Дзейнасць арганізацыі не фінансуецца. Нават ўтрыманне будынка ці кошты

**( Працяг на стар. 6 )**

# ДЗЕЛЯ ДОБРАЙ АТМАСФЕРЫ

**( Працяг са стар. 1 )**

радыёвяшчаннямі. Інфармацыйны правал, дадаў Ежы Мушынскі, беластоцкаму радыёвяшчанню не пагражае, хаця нельга не адзначыць, што ў час літоўскіх падзеяў тэлефоны нашых супрацоўнікаў заставаліся глухімі, не было ніякай адтуль інфармацыі.

Марко Заброцкі запытаў дырэктара радыёвяшчання, ці няма магчымасці, каб перадаваць штодзень паўгадзінны арыгінальнай беларускай перадачы. Ежы Мушынскі адказаў, што няма дзеля гэтага фінансавых сродкаў і таму прыдумалі яны паўторы 15-хвілінных перадач. На царкоўную перадачу трэба ў гэтым кантэксце глядзець як на аўтаномную, а ўсякія страты беларускай перадачы кампенсуюцца паўгадзінным арыгінальным матэрыялам у суботу. Уладзіслаў Праховіч дапоўніў, што ў выпадку важных падзеяў радыё адступае ад прынцыпу паўтораў беларускіх перадач.

Ян Чыквін запытаў, ці не ўдалося б у рамках беларускай рэдакцыі выдзяліць літаратурную. Падрыхтуйце мерытарычна такую перадачу, вазьміце за яе адказнасць, а мы запэўнім для яе функцыянаванне, адказаў Ежы Мушынскі. Найлепш было б знайсці нейкага спонсара, але не бачу перашкод, каб раз у нейкі час прысвяціць літаратуры нашу традыцыйную 15-хвілінную перадачу.

На заўвагу Аляксандра Баршчэўскага, што радыё не павінна паказваць рознагалоссі паміж беларускімі арганізацыямі, Ежы Мушынскі адказаў, што радыё не імкнецца да ролі суддзі ў нацыянальных непаразуменнях. Яго роля канчаецца на сумленнай прэзентацыі аргументаў усіх бакоў такога непаразумення. Нельга дапускаць да сітуацыі, што нехта робіць дрэнную працу, а мы гэта замоўчваем. Беларускія перадачы, сказаў яшчэ Ежы Мушынскі, замацаваліся ў свядомасці слухачоў, журналісты, якія займаюцца іх падрыхтоўкай, здабылі сабе вядомасць. Усё гэта прычыняецца да таго, што журналісты гэтыя штораз часцей будуць увахозіць у зоны канфліктаў — гэта непазбежнае.

Ян Сычэўскі заўважыў, што няма інфармацыі пра мерапрыемствы Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Адказаў яму Уладзіслаў Праховіч. Інфармацыя такая не наплывае ў радыё ад арганізатара гэтых мерапрыемстваў.

Беларускае асяроддзе, дапоўніў Ежы Мушынскі, мае перадачу, якая павінна служыць яго інтарэсам — карыстайце з гэтага, калі ласка. Беларускае асяроддзе павінна быць актыўным.

**(ам)**

## СУСТРЭЧЫ З МУЗЫКАЙ

Некалькі ўжо добрых гадоў, як Беластоцкая філармонія праводзіць музычныя сустрэчы ў школах Беластоцкага ваяводства. Раз у два месяцы артысты наведваюць школу ў Нараўцы. Праўда, у гэтым навучальным годзе з-за недахопу фінансавых сродкаў сустрэчы з музыкантамі пачаліся толькі ў сакавіку.

12 сакавіка вучні ў Нараўцы з нецярпеннем чакалі гасцей. Музычныя сустрэчы ў апошні час вядзе беластоцкі музыкавед Ежы Таўрэль. Ён заўсёды ўмее цікава гаварыць аб музыцы і знайсці супольную мову з вучнямі. Гэтым разам школьная моладзь пазнаёмілася з танцамі розных народаў. Цудоўна ігралі музычныя творы маладыя музыканты: баяніст Пётр Халаловіч і скрыпач Дар'юш Гарбач. Асабліва гледачам спадабаўся венгерскі чардаш, які музыканты зайгралі ў дуэце.

**М. ВАРАНЕЦКІ**

### ПАПРАЎКА

У маім артыкуле „Дагавор па-над школамі" („Ніва", н-р 12), па карэктарскаму недагляду, здарылася памылка. Старшынёю грамадскай камісіі па рэформе навучання беларускай мовы не з'яўляецца дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя, а дырэктар Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім **Васіль Ляшчынскі**. Ён і расказваў асветным уладам, на сустрэчы ў ліцэі імя Б. Тарашкевіча, пра гэту камісію. Абодвух дырэктараў і паважаных чытачоў „Нівы" за памылку перапрашаю.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

 

# ЛЕТНЯЯ ШКОЛА БЕЛАРУСІСТАЎ

ДАРАГІЯ КАЛЕГІ!
СЯБРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ!
НАШЫ ЗАРУБЕЖНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

У сям'ю вольных народаў Еўропы ўваходзіць сёння суверэнная Рэспубліка Беларусь!

На працягу стагоддзяў Беларусь дала свету больш, чым свет ведае пра яе!

Калі Вы хочаце адкрыць для сябе наш дзівосны край, хочаце ведаць яго гісторыю і цяперашняе жыццё, спазнаць душу народа, яго мову — прыязджайце ў Беларусь!

Даўней, у Вялікім княстве Літоўскім, беларуская мова з'яўлялася дзяржаўнай. На ёй пісаліся законы, вяліся паседжанні соймаў і судоў. З тых часоў захавалася шмат кніг, грамат, помнікаў старадаўняга пісьменства. Потым, у часы паланізацыі і русіфікацыі, асабліва ў гады бальшавіцкага таталітарызму, беларускай мове пагражала небяспека памерці. І ўсё ж, наперакор праследаванням, яна жыла — найперш у багатай мастацкай літаратуры. А нядаўна распачалося нацыянальна-культурнае адраджэнне. Беларуская мова набыла статус дзяржаўнай, што павялічыла да яе цікавасць ва ўсім свеце.

Таму мы звяртаемся да навукоўцаў, студэнтаў, аматараў беларускага пісьменства, да дзяцей і ўнукаў нашых суайчыннікаў за мяжой, дзелавых людзей, да ўсіх тых, хто жадае вывучыць беларускую мову, літаратуру, мастацтва, культуру: прыязджайце на Беларусь! Гэта будзе Ваш асабісты ўклад ў нацыянальнае адраджэнне яе народа, у вяртанне Беларусі ў еўрапейскую садружнасць, ва ўзняцце міжнароднага прэстыжу беларускай мовы.

Для ўсіх тых, хто цікавіцца мовай, літаратурай, культурай незалежнай Беларусі, ужо ў другі раз летам адчыніць свае дзверы Міжнародная школа беларускай мовы, літаратуры і культуры (МШБ). Навучанне ў ёй, пражыванне ў горадзе Менску, харчаванне і культурна-экскурсійнае абслугоўванне — адно з самых танных сярод школ падобнага тыпу ў свеце.

У 1992 годзе Міжнародная школа беларусістыкі праводзіць летнюю сесію з 1 па 25 жніўня. У час яе будзе праведзена навуковая канферэнцыя „Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа". На заканчэнне вучобы у МШБ адбудзецца сімпозіум беларусістаў свету на тэму: „Творчая спадчына Я. Купалы і Я. Коласа ў кантэксце духоўнай культуры народаў свету (да 110 гадавіны нараджэння класікаў беларускай літаратуры)". У сувязі з гэтым просім загадзя, да 1 чэрвеня, назваць тэмы сваіх дакладаў і паведамленняў. Заняткі ў МШБ будуць весціся з улікам ведання беларускай мовы: у пачатковай групе, з паглыбленым навучаннем і па індывідуальнай праграме. Выкладчыкамі стануць вядучыя вучоныя Беларусі.

Кошт навучання, пражывання, харчавання, культурнага і экскурсійнага абслугоўвання такі: для студэнтаў з славянскіх краін — 50 долараў ЗША, з іншых зарубежных краін — 100 долараў, для навукоўцаў, тых, хто працуе, — адпаведна 100 і 200. Дарога ў Менск і назад — за ўласны кошт.

Міжнародная школа беларусістыкі — самастойная культурна-асветная ўстанова, якая пачала сваю працу ва ўмовах самафінансавання, самаакупнасці. Дырэкцыя МШБ ставіць сваёй мэтай самастойнае ажыццяўленне знешняй эканамічнай і культурнай дзейнасці, гатова пайсці на заключэнне кантрактаў з замежнымі партнёрамі, па стварэнне сумесных навукова-культурных праграм.

У працы школы могуць прыняць удзел і ўкласці ў яе развіццё свой капітал замежныя вучоныя, нашы суайчыннікі. Рады будзем супрацоўнічаць з кожным, хто захоча садзейнічаць духоўнаму адраджэнню беларускай нацыі. Укладанне капіталу ў навуку і адукацыю дае сёння ў свеце вельмі добры эфект!

Калі Вы хочаце ісці ў нагу з часам — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце стаць багацейшымі яшчэ на адну мову, культуру — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце адкрыць для сябе яшчэ адзін цудоўны край — прыязджайце ў Беларусь!

Калі Вы хочаце, каб Вашы дзеці і ўнукі ўмацавалі сваё веданне роднай беларускай мовы, пабывалі на зямлі сваіх продкаў, — пасылайце іх у Беларусь!

Будзем рады вітаць Вас у старадаўнім Менску, між пушчанскіх лясоў і блакітных азёраў! Запрашаем! Чакаем!

Наш адрас:
Беларусь, 220088, Менск-88,
вул. Захарава, 59, МШБ.
Тэлефакс — 0172-26-59-40;
Тэлекс — 25-23-85 ГАММА;
Тэлефон — 36-59-16

**Міжнародная школа беларусістаў**

**Міжнародны камітэт беларусістаў**

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

# ЯК КУПІЦЬ І ПРАДАЦЬ У БЕЛАРУСІ?

Пад такім заклікам 11 сакавіка ў Беластоку праводзілася першая канферэнцыя беларускай таварна-гандлёвай біржы і беларускага камерцыйнага банка. Арганізавала канферэнцыю беластоцкая суполка „Wspieranie Inicjatyw", суполка з абмежаванай адказнасцю. Гасцямі канферэнцыі былі Барыс Кліменка — прэзідэнт таварна-гандлёвай біржы ў Магілёве і Мікалай Уласаў — дырэктар магілёўскага камерцыйнага банка.

Канферэнцыя датычыла новых прынцыпаў у гандлі з Беларуссю. Зараз купіць ці прадаць там нешта — клопат, таму якраз такая канферэнцыя, сказаў ва ўводным слове Міхал Лісоўскі, дырэктар суполкі-арганізатара. З арганізацыі такіх і падобных ім мерапрыемстваў мая суполка жыве, дадаў яшчэ М. Лісоўскі.

Магілёўская біржа, гаварыў у сваім выступленні Барыс Кліменка, развілася да такой ступені, што неабходна ёй выйсці на замежныя рынкі. Сваёй сеткай біржа ахоплівае ўсю тэрыторыю, на якой дзейнічае рубель. Шанц на далейшае развіццё біржы ў супрацоўніцтве з польскімі бізнесменамі, бо бачым, гаварыў Б. Кліменка, што польскія прадпрымальнікі бушуюць па ўсім рынку былога Саюза ды не могуць яго ўразумець. Нічога тут дзіўнага, дадаў Б. Кліменка, мы таксама маем з гэтым клопат.

У канферэнцыі беларускай таварна-гандлёвай біржы і беларускага камерцыйнага банка ўдзельнічалі прадстаўнікі дваццаці сямі фірмаў, якія прадстаўлялі свае тавары альбо рэкламныя матэрыялы. Падборку фірмаў-удзельнікаў канферэнцыі зрабіў арганізатар паводле капіталу, якім фірма распараджаецца (што ж, ажыццяўляць свае ініцыятывы ў незалежнай Беларусі дадзена далёка не ўсім). З другога боку, хто ўжо таго-сяго на беларускім рынку дабіўся, той патрэбнасці ў якой-колечы канферэнцыі не адчувае.

Ці будзе якая карысць ад такой сустрэчы? Некаторыя спецыялісты небеспадстаўна даказваюць, што паказальнік паспяховасці гандлю з Беларуссю паменшваецца прапарцыянальна да ўзросту лічбы прысвечаных гэтаму гандлю канферэнцыяў ці яшчэ якіх сімпозіумаў.

**(ам)**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

У беластоцкім парку Звярынец адбыўся чэмпіянат ваяводства юнцоў у бегах з перашкодамі. На дыстанцыі 1500 метраў сярод дзяўчат перамагла Святлана Заграбанцава (Гродна), якая на фінішы апярэдзіла Анэту Снарскую і Кацярыну Саковіч (абедзве яны з Пачатковай школы н-р 2 у Васількове).

Хлопцы спаборнічалі на трасе, якая налічвала 3000 метраў, а найлепшымі былі: Тамаш Багінскі з Пачатковай школы н-р 2 у Васількове (першае месца), Тамаш Бандарук з Пачатковай школы ў Старым Ляўкове (другое месца) і Артур Пякарскі з Пачатковай школы ў Пагажалках (трэцяе месца).

**(ЯЦ)**

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

штатаў загадзя ўжо дамовіліся аб намінацыі, а цяперака адно шпараць палітычную лухту з хрэнам і падкручваюць сваіх выбаршчыкаў.

Актуальныя прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт, з моцы выбарчае ардынацыі, могуць выступаць у перадвыбарах без абавязку збірання подпісаў у сваю падтрымку. Іншыя кандыдаты гэтую працэдуру праходзяць. Зноў жа, я нават не памкнуўся ў яе заглянуць, папацеўшы над гэтым, пра што напісаў дасюль. У лістападзе, на шчасце, адбываецца нешта больш падобнае на выбары ў нашым свеце — чалавек ідзе да ўрны і выбірае прэзідэнта: галасуе на дэмакрата або рэспубліканца (адначасова выбірае і віцэ-прэзідэнта).

З рэспубліканцаў у сёлетнія выбары выстартавалі Джордж Буш і Патрык Бюканан. З дэмакратаў — губернатар Арканcаса Біл Клінтан, сенатар з Айова Том Гаркін, Пол Цонгас і Джэры Браўн. Пакуль што, кожны з кандыдатаў да намінацыі вядзе сваю ўласную выбарчую кампанію, прадстаўляючы сваю ўласную выбарчую праграму і крытыкуючы праграмы сапернікаў — без разбору, з якое яны партыі. Магчымыя выбарчыя кааліцыі, асабліва сярод дэмакратаў, могуць выкрышталізавацца пазней, калі перадвыбары адбудуцца ў большыні штатаў. У дагэтуляшніх перадвыбарах лідэруюць Джордж Буш і Біл Клінтан.

Паколькі, у ацэнцы назіральнікаў амерыканскай палітычнай сцэны, Буш можа быць спакойны наконт свае намінацыі (Патрык Бюканан не з'яўляецца сур'ёзнай пагрозай), выбарчаму штабу Буша трэба нейк нейтралізаваць лідэра дэмакратаў Клінтана, спрытнага палітыка, які знакаміта выкарыстоўвае супроць цяперашняга прэзідэнта эканамічныя клопаты краіны. У дадатак, Клінтан малодшы за Буша на 22 гады, і мае, што называецца, асабістую прывабнасць. Шэфам выбарчага штаба Клінтана з'яўляецца ягоная энергічная жонка Гілары, выдатны юрыст.

На Клінтана ў кампаніі ўпалі ўжо два цяжкія ўдары. Чорт-ведама — вынік падпольнай работы журналістаў у пошуках спосабаў нагнаць ва ўласныя фірмы кучы долараў, ці, можа, гэтая самая работа штабавікоў Буша? У кожным выпадку, адно другому не перашкаджае.

Па-першае, адна бульварная газетка з назовам „Star" выкапала з нейкага трэцяраднага кабарэ спявачку Джыні Флаўэрс (Кветачку, так ты мовіць). Клінтан меў з ёю раман, а гэтая спявачка, пранюхаўшы ягоныя намеры наконт прэзідэнтуры, не правароніла свайго жыццёвага шанцу. Запісала на магнітафон адну тэлефонную размову з ім, у якім ён не надта ветліва адзываецца аб сваіх магчымых саперніках у выбарах. Запіс гэтай размовы даволі цьмяна пацвярджае іхні раман (Клінтан наадрэз ад гэтага адмовіўся), але без сумнення сведчыць аб іхнім даволі блізкім знаёмстве, якому Клінтан пачаткова таксама пярэчыў. Значыць, папаўся. Джыні, якая ў сваім кабарэ зарабляла мізэрныя 16 тысяч у год, ухапіла ад газеткі „Star" ладную суму за выключнасць публікацыі сваіх эратычных прыгодаў з губернатарам. Нявернасць у сужонстве — раней гэта адразу перакрэслівала палітычную кар'еру ў Амерыцы. Ніхто не ў змозе растлумачыць, чаму Клінтану ўдалося стрываць гэты ўдар і далей выступаць у кампаніі без відавочнай шкоды для папулярнасці. Адзначыць трэба, што ягоная жонка стрывала гэты скандал надзвычай мужна і павяла выбарчую кампанію як цвёрды і дасведчаны палітык, які ведае канчатковую мэту і не падае на паўдарозе.

Другі ўдар звязаны з в'етнамскай вайной — усё яшчэ незагойнай ранай у грамадска-палітычным жыцці Амерыкі. Нават бліскучая амерыканская перамога па іракскай пустыні не змагла цалкавіта закрыць для амерыканцаў в'етнамскую старонку ў іхняй найнавейшай гісторыі. Да публічнага ведама быў пададзены ліст Клінтана, які ён напісаў гадоў 25 таму рэктару аднаго з універсітэтаў і ў якім дзякаваў за залічэнне яго ў студэнты (якое засцерагала ад наклікання ў армію ў В'етнам) і адначасова адмаўляўся ад навукі з увагі на тое, што такі крок можа яму пашкодзіць у далейшай палітычнай кар'еры — значыць, Клінтан прадумаў справу і хоча паспрабаваць свайго шанцу з рэкрутацыяй у войска (тады рэкрутацыя адбывалася латарэйным спосабам). Гэты „амбівалентны" ліст цяпер быў скарыстаны супроць яго — маўляў, Клінтан аказаўся баязліўцам, калі айчына яго патрабавала. Але ліст паказаў і яшчэ адну рысу кандыдата на прэзідэнцкае крэсла — Клінтан, дваццацігадовы юнак, думаў ужо як масціты палітык, плануючы сабе месца ў палітычнай сістэме!

Аказалася, што і гэтая „в'етнамская граната" не зваліла Клінтана з ног — ягоная кампанія ідзе нармальна, падтрымка выбаршчыкаў ставіць яго зараз за Бушам. Партыйныя аналітыкі ў дэмакратычным штабе сапраўды будуць патрабаваць цэлае моцы сваіх камп'ютэраў, каб ацаніць усе pro і contra і выбраць адпаведнага кандыдата. Ці будзе гэта Клінтан, ці Цонгас (зараз за Клінтанам), ці яшчэ нехта іншы — цяжка сказаць.

**ЯН МАКСІМЮК**



 

# БЕЛАРУСКІЯ ТЭМЫ ЎРОКАЎ ГЕАГРАФІІ

Вядомы польскі географ, педагог, публіцыст і пісьменнік Вацлаў Налкоўскі ў „Абрысе методыкі геаграфіі" (Вільня 1890 г.) адзначае: „... геаграфія навучае, выводзіць людскую думку з цеснаты і аднабаковасці засценка, адкрывае шырокія параўнаўчыя гарызонты. Павінна яна цікавіць кожнага, хто ўмее навукова думаць, эстэтычна адчуваць і практычна дзейнічаць на шырокай арэне". З увагі на універсальнасць здабытых ведаў і ўмеласцяў такіх, як вызначэнне свайго месцазнаходжання, магчымасці карыстацца картамі для лакалізацыі з'яў і здарэнняў, веданне, як планаваць уласнае падарожжа і турыстыку, уменне аналізу гаспадарчых, палітычных і іншых працэсаў, геаграфія патрэбная не толькі інтэлігенцыі, але і рамеснікам, рабочым, сялянам, людзям эканамічнай ініцыятывы. Геаграфія як навука пра сучасную рэчаіснасць з'яўляецца мультдысцыплінай, бо ахоплівае цэлы веер прыродазнаўчых, эканамічных, палітычных і гуманістычных сфер чалавечага бытавання і яго цікавасці свету.

Сучасная арганізацыя прасторы (ад лакальнай па сусветную) не мае статычнага характару. Падпарадкавана яна пэўным зменам, зменам усё хутчэйшым. На канве фізіка-геаграфічнай стабільнасці адбываюцца грамадска-гаспадарчыяператварэнні з далёка ідучымі паслядоўнасцямі для жыцця і ўсякай дзейнасці.

У апошнія гады расце грамадскае запатрабаванне на веды пра ўласны рэгіён. Таму на розных узроўнях навучання геаграфіі ў пачатковых і сярэдніх школах асабліваe месца пачынае займаць рэгіянальная геаграфія, існуючая дагэтуль інтуітыўна. Адной з вядучых функцыяў гэтай інтэгральнай часткі геаграфіі з'яўляецца культуратворчая функцыя, якая выклікае пачуццё лакальнай, рэгіянальнай, дзяржаўнай ці міжнароднай супольнасці. Трэба аднак таксама ведаць, што побач палітычных, адміністрацыйных і іншых падзелаў існуюць не заўсёды бачныя сувязі, абумоўленыя культурным адзінствам або падабенствам.

Хочам ці не хочам, геаграфія змяшчае ў сабе магутныя нацыянальныя, грамадскія і ідэйныя элементы. Ва ўмовах адбываючыхся сёння ў Польшчы радыкальных палітычных, эканамічных і грамадскіх пераўтварэнняў, далучэння да агульнаеўрапейскіх працэсаў інтэграцыі неабходны ўдзел цэлага польскага грамадства, разам з нацыянальнымі, у пабудове новага ладу. Патрэбны ўрэшце новы погляд на прасторы, якія — як наша Усходняя Беласточчына — іншыя па сутнасці сваёй этнічнай і культурнай субстанцыі. Вельмі важнай таксама справай для кожнага інтэлігентнага ды светлага чалавека з'яўляецца ўмеласць цвярозай ацэнкі розных з'яў і працэсаў з пункту гледжання іх фінальных вынікаў. Калі ў канцы XX стагоддзя гусцеюць ніткі ўзаемазалежнасцяў, трэба ствараць клімат павагі да існуючых культурных, рэлігійных, этнічных і іншых адрозненняў. У амаль кожнай дзейнасці дамінаваць павінна ідэя суіснавання, садзейнічання і сумеснай адказнасці.

Беларуская супольнасць у Рэчыпаспалітай Польскай, якая спрадвеку жыве на сваёй зямлі, што ад усходу мяжуе з Рэспублікай Беларусь, хоча сёння і ў будучыні адчуваць сябе паўнапраўным суб'ектам. Нашыя справы, праблемы не могуць быць надалей тэмамі табу, акружанымі атмасферай ігнаранцыі ды араганцыі. Беластоцкі край — гэта наша Малая Айчына, Бацькаўшчына, тут родная старонка, родны кут кожны. Менавіта таму нам як карэннаму насельніцтву нельга карыстацца такімі негатыўнымі і прыніжаючымі акрэсленнямі, як Усходняя Сцяна, Польшча „Б" ці Крэсы. На Беласточчыне палякам і беларусам заўсёды жыць разам, разумна, дружна і мірна. Веданне беларускіх і польскіх спраў, гісторыі, традыцыяў, культуры, захаванне помнікаў мінулага, атрыманых у спадчыну ад дзядоў і прадзедаў павінны прычыніцца да поўнай ліквідацыі „засценка" ў геаметрычным цэнтры Еўропы.

Сёння настаўнікам і моладзі агульнаадукацыйных ліцэяў (не толькі з беларускай мовай навучання) прапаную апрацаваныя мною праграмныя лозунгі для выкарыстання на ўроках геаграфіі, а прысвечаныя беларускай і рэгіянальнай тэматыцы.

ЮРКА БАЕНА

**KLASY I-II ( 7- 10 godz. )**

**A. GEOGRAFIA REPUBLIKI BIAŁORUŚ**

Białoruska przestrzeń etniczna w ciągu wieków. Obecne położenie geograficzne, terytorium i podział administracyjny Republiki. Środowisko geograficzne — Budowa geologiczna, bogactwa mineralne. Ukształtowanie powierzchni. Klimat. Układ sieci hydrograficznej. Gleby. Fauna i flora. Ochrona przyrody, problemy ekologiczne.

Gospodarka — Przemysł, baza surowcowa, główne ośrodki przemysłowe. Rolnictwo i wyżywienie. Sieć transportu. Przemiany ustrojowe w najważniejszych sektorach gospodarki. Powiązania gospodarcze Białorusi z republikami byłego Związku Radzieckiego. Wymiana handlowa z Polską i innymi krajami Europy.

Ludność — Białorusini i mniejszości narodowe. Zróżnicowanie religijne. Rozmieszczenie ludności. Miasta i osadnictwo wiejskie. Regiony etnograficzne. Kultura, oświata, nauka i ochrona zdrowia. Sytuacja demograficzna w strefie dotkniętej skutkami awarii elektrowni jądrowej w Czarnobylu.

Zasoby turystyczne Białorusi i ich wykorzystanie.

**KLASA III (7 - 10 godz.)**

**B. BIAŁORUSKA MNIEJSZOŚĆ NARODOWA W RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ**

Rozmieszczenie ludności białoruskiej na Białostocczyźnie, jej terytorium etniczne. Osadnictwo wiejskie, jego przemiany, problemy demograficzne wsi. Białorusini w miastach województwa białostockiego i Polski. Obrzędowość i folklor Wschodniej Białostocczyzny. Amatorski ruch artystyczny, imprezy kulturalne. Organizacje społeczno-kulturalne i polityczne: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne, Białoruskie Zrzeszenie Studentów, Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża", Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. Szkolnictwo białoruskie. Prasa, audycje radiowe. Problemy ochrony wartości kulturalnych regionu. Muzeum Białoruskie w Hajnówce.

Polski Autokefaliczny Kościół Prawosławny na Białostocczyźnie — Dzieje Prawosławia na Podlasiu. Podział administracyjny: archidiecezja warszawsko-bielska i diecezja białostocko-gdańska, dekanaty, parafie. Cerkwie, kaplice, klasztor żeński Św. Marty i Marii na Górze Grabarce. Odbudowa spalonej cerkwi pod wezwaniem Św. Spasa (Przemienienia Pańskiego) na Grabarce oraz Ławry Supraskiej pod wezwaniem Błahawieszczanija PDM (Zwiastowania NMP). Międzynarodowe festiwale muzyki cerkiewnej w Hajnówce, Bractwo Prawosławne. Bractwo Młodzieży Prawosławnej.

Miejscowe zasoby naturalne: baza surowcowa, gleby, lasy, wody powierzchniowe, walory krajobrazowe. Przemysł i rolnictwo. Sytuacja gospodarcza regionu. Warunki bytu ludności — materialne i niematerialne: warunki mieszkaniowe, dostępność komunikacyjna, ochrona zdrowia, oświata, kultura masowa. Możliwości rozwoju gospodarczego. Miejscowe firmy zajmujące się handlem z Białorusią. Rola władz centralnych, wojewódzkich i samorządowych w rozwiązywaniu problemów społeczności białoruskiej na Białostocczyźnie.

**KLASA IV (5 godz.)**

**C. BIAŁORUSKA EMIGRACJA NA ŚWIECIE**

Przyczyny, etapy, kierunki i rozmiary emigracji. Najważniejsze ośrodki emigracyjne w Stanach Zjednoczonych, Kanadzie, Wielkiej Brytanii, Australii i Argentynie. Główne centra naukowe: Białoruski Instytut Nauki i Sztuki w Nowym Jorku oraz Białoruska Biblioteka i Muzeum im. Franciszka Skaryny w Londynie. Białoruskie Centrum Społeczno-Kulturalne „Połacak" w Cleveland. Organizacje społeczne i religijne, zespoły folklorystyczne, chóry, prasa, audycje radiowe, zjazdy, spotkania.

Stosunek władz rządowych do emigracji białoruskiej i jej problemów w wybranych krajach.

**D. MONOGRAFICZNA CHARAKTERYSTYKA BIAŁORUSKIEJ WSI NA BIAŁOSTOCCZYŹNIE (wybranej)**

Rys historyczny wsi. Obiekty sakralne, pomniki kultury materialnej. Nazwy dróg, pól, uroczysk i cieków wodnych. Obrzędy, zwyczaje, pieśni, tradycje.

Układ przestrzenno-architektoniczny. Współczesne funkcje miejscowości. Główne zajęcia ludności.

Zasoby naturalne środowiska, ich wykorzystanie i ochrona. Struktura użytkowania gruntów.

Warunki bytu ludności. Sytuacja demograficzna. Inne problemy rozwoju wsi.

**********************************************




**З дакументаў Генеральнага штаба (II Аддзела) Варшава 1928.**

— 59 —

Нягледзячы на кампраміснае трактаванне справы, рознагалоссі ў меркаваннях станавіліся большымі, што ў канцы прымусіла Яроміча адыйсці з функцыі старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта. Замяняў яго кс. Станкевіч, а потым старшынёй быў выбраны А. Луцкевіч.

Прагнучы, аднак, утрымаць кантакт з польскімі ўладамі, Беларускі нацыянальны камітэт паслаў да дэлегата ўраду Рамана дэлегацыю, у якую ўвайшлі Луцкевіч, Станкевіч і Кахановіч. Дэлегацыя гэта прадставіла дэлегату ўраду рад бягучых патрэб.

Апрача гэтага на пасяджэнні ад 28 мая 1922 года Беларускі нацыянальны камітэт прыняў наступную пастанову:

„1). Лічачы, што ўсякая дзейнасць і кожнае палітычнае выступленне ўсіх беларускіх арганізацый павінна мець на мэце ідэю незалежнай і непадзельнай Беларусі, Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні захавае сваю непарушную прынцыповую пазіцыю.

2). Лічачыся, аднак, з фактам далучэння да Польшчы ўсёй заходняй Белай Русі, а таксама з сучасным палітычным станам беларускай справы, Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні ставіць перад сабой заданне ўсебаковай абароны праваў беларускага насельніцтва пад уладай польскай дзяржавы, паслугоўваючыся пры гэтым усякімі праўнымі сродкамі, якія дапускаюцца Канстытуцыяй Рэчыпаспалітай".

З вышэй прыведзенай рэзалюцыі вынікае, што Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні ў далейшым займаў пазіцыю неангажавання ў польскі бок.

Было некалькі прычын беларускай асцярожнасці:

1). Неакрэсленасць палітычнага палажэння Віленшчыны ў міжнароднай трактоўцы.

2). Адсутнасць прыхільных крокаў з боку польскага ўрада ў адносінах да беларускага нацыянальнага руху і цяжкасці ў атрыманні канцэсіі для беларускага школьніцтва.

Пэўныя апасенні сярод беларусаў выклікала асоба П. Гасяроўскага, школьнага куратара ў Вільні, які ў сваіх дэкларацыях поўнасцю абыходзіў школьніцтва беларускай меншасці.

3). Праект выбарчых норм у Варшаўскі Сейм, які не здавальняў аспірацыяў беларусаў.

Апрача гэтых прычын, стаўленых беларусамі, існавалі яшчэ знешнія чыннікі, якія ўплывалі на ўнармаванне грамадскай думкі віленскіх беларусаў і іх адносін да Польшчы.

Нямецка-савецкі трактат у Рапала і тайныя канферэнцыі, якія, паводле гутарак, мелі месца паміж немцамі і прадстаўнікамі Саветаў, з аднаго боку, і літоўцамі ды ўрадам Ластоўскага, з другога, узбуджалі сярод віленскіх беларусаў надзею на новую формулу палітычных адносін на ўсходзе і на магчымасць паўторнай пастаноўкі беларускага пытання на міжнародным форуме.

*(Працяг будзе)*

# У КАМІСІІ АСВЕТЫ

23 сакавіка бягучага года адбылося ў Бельску-Падляшскім выязное пасяджэнне Камісіі асветы Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Методык беларускай мовы і адначасова намеснік старшыні гэтай Камісіі Тамара Русачык паінфармавала аб ходзе працы над апрацоўкай часовай праграмы навучання беларускай мовы ў пачатковых школах, а таксама аб працы Камісіі па справах рэформы поўнай праграмы навучання ў пачатковых школах, у якіх вядуцца ўрокі беларускай мовы. Спецыялісты па навучанню роднай мовы нанава распрацавалі праграму навучання літаратуры і граматыкі ў класах V і VIII, набліжаючы яе да праблем сучаснага жыцця і выкарыстоўваючы вопыт настаўнікаў з Гродна (Рэспубліка Беларусь). Настаўніца Вольга Сянкевіч з Гайнаўкі прапанавала запісваць на магнітафонную плёнку выступленні ўдзельнікаў цэнтральных элімінацыяў дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова". Гэтыя запісы можна выкарыстоўваць на ўроках беларускай мовы як адзін з лепшых дапаможнікаў. Гэтаксама можна запісаць на плёнку выступленні ўдзельнікаў конкурсу тэатральных калектываў.

Намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі расказаў пра сустрэчы: міністра культуры і мастацтва Анджэя Сіцінскага з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый з мэтай пазнаёміцца з пытаннямі нашага асяроддзя, а таксама з Беластоцкім ваяводам і Куратарам асветы і выхавання. Паінфармаваў аб сустрэчы прадстаўнікоў ГП БГКТ з галоўным рэдактарам Беластоцкага радыёвяшчання Эжы Мушынскім.

Сакратар Валянціна Ласкевіч прыпомніла тэрміны бліжэйшых культурна-асветных мерапрыемстваў. У аўторак, 7 красавіка г.г. (пачатак а гадзіне 13) у Нарве адбудзецца раённая канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы і ў сераду, 8 красавіка (пачатак а гадзіне 12) у Бельску-Падляшскім адбудуцца элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для моладзі сярэдніх школ і дарослых. Яна паінфармавала, што ўжо пара рыхтаваць ліцэістаў, ахвотных паехаць на адпачынак у Беларусь (іх запрашае Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына") ды настаўнікаў, якія жадаюць павышаць свае веды на курсе беларускай мовы ў Менску. Заняткі курсантаў, як вядома, штогод адбываюцца ў час летніх канікулаў.

(яц)

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Станіслаў Шушкевіч

## ВЫМАК ЗАЙЧЫК У РАСЕ

Бегаў зайчык па расе,
А цяпер на пень прысеў.
Галасочкам тоненькім
Просіць зайчык сонейка:
— Падыміся ўверх, вышэй,
Бо азяб я да вушэй.
Адубелі, нібы ў жабкі,
Мае мокранькія лапкі.
Сонейка над лесам свеціць,
І прыціх халодны вецер.
Заспявалі птушкі хорам,
І прапала ў зайкі гора.





*Лясны каваль.* **Фота Я. Целушэцкага.**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### Берасцяначка

Берасцяначка, скажы,
Дзе ты ў лесе любіш жыць?
Ці ў нізіне, ля ракі,
Ля чароту, асакі?
Ці ў глухім асінніку?
Ці ў густым крушынніку?
— Там, дзе многа сонейка,
У чысценькім сасонніку
Мой узгорачак відаць.
Там люблю я жыць, спяваць.

### Пліска

Ля вадзіцы блізка
Лёгка скача пліска.
Ножкі, як спружынкі,
Скача без упынку.
Цёмныя вочкі,
Белыя шчочкі,
Чорная галоўка,
Шэрая ватоўка.
Пэўна, ёю купіна
Назаўсёды куплена,
Бо заўсёды тут яна...
Вечна скача пліска
Ля вадзіцы блізка.



### З вераб'ём ваюе шпак

Са шпакоўні верабей
Паглядае франтам,
Нібы ён тут на вярбе
Здаўна кватарантам.

На галінцы шпак прысеў,
Злосна пратэстуе:
— Тут мой дом!
Вылазь, сусед!
Але той не чуе.

— Ах, гультай! —
прамовіў шпак. —
Я ж цябе, злачынец!
Ты не хочаш? Ах, дык так!
Дам табе гасцінец!

Верабей нібы аглух.
— Чык-чырык! — цвіркоча.
Пад крылом цярэбіць пух,
Уцякаць не хоча.

І пачаўся рантам бой,
Доўгі і зацяты.
Верабей, злачынец той,
Збег з чужое хаты.

****************************************

## ЦЯЖКАЯ НАВУКА

*Казка аб тым,*
*Як нялёгка зусім,*
*Хоць нарадзіўся ты*
*З лапамі і хвастом,*
*Стаць катом.*

Было гэта ні зімой, ні летам, ды вядома дакладна, што перад абедам. Вывеў стары Кот маладога Катка за браму і сказаў прама:

— Хопіць табе, сын, на маёй шыі сядзець. Пабегаў, пагуляў, усмак паеў, удосыць паспаў — час і самому мышэй лавіць.

— А якія яны, мышы? — упершыню пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, во-о-о-сь з такімі хвастамі! — развёў стары Кот лапы як мага шырэй. І, відаць, парашыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, на цёплую печку падаўся.

Нічога не засталося Катку, як самастойна на працу накіравацца.

Вакол хаты абышоў, уздоўж плота прабег — на луг выйшаў. Бачыць, нейкія звяры пасвяцца — хвасты ледзь не да зямлі звісаюць.

„Бач, колькі мышэй... — узрадаваўся Каток. — А хвасты ў іх яшчэ даўжэйшыя, чым бацька паказваў".

Падкраўся ды хоп за хвост!

— М-м-му-у! — спалохаўся звер ды як махне хвастом — Каток тры разы цераз галаву перакуліўся.

Падхапіўся, абтросся — з усіх ног дамоў панёсся.

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі яна так хвастом махнула, што я тры разы цераз галаву перакуліўся.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот, — ты ўхапіў за хвост не мышку, а карову.

— А якія яны, мышы? — другі раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — задумаўся стары Кот, — такія маленькія, шэрыя...

Нічога не заставалася Катку, як зноў на паляванне падацца.

За браму выйшаў, вакол хаты абабег — бачыць: на прызбе бабка Матруна сядзіць, у руках палачкі мільгаюць, а на зямлі каля яе нешта маленькае шэрае падскаквае — хвост доўгі, проста бабулі Матруне ў рукі цягнецца.

„Дык вось яна якая, мышка!" — узрадаваўся Каток.

Падкраўся неўпрыкметку — цоп! — і ўчапіўся кіпцямі ў маленькае і шэрае.

— Ах ты, дурненькі, — устала з прызбы бабка Матруна. — Ты чаму не даеш мне ўнуку рукавічкі вязаць? — ды як шпурне ў Катка недавязанай рукавічкай.

Яно і не балюча, ды крыўдна.

Каток абтросся — і з усіх ног дамоў панёсся.

— Ну, як паляванне? — пацікавіўся стары Кот. — Упаляваў хоць адну мышку?

— Злавіў, — мяўкнуў Каток. — Толькі бабка Матруна адабрала — рукавічкай у мяне запусціла.

І Каток расказаў усё як было.

— Дурненькі, — уздыхнуў стары Кот.

**( Працяг на стар. 10 )**



## Малюнкі школьнікаў



*Мышка Пік–Пік робіць макіяж.*
**Мал. Манікі Мусько.**

# КРАСАВІК

Доўгачаканая пара... Абуджаецца прырода. У вясновым небе чуецца спеў жаўрука, чарадою цягнуцца з поўдня гусі і качкі, пачынаюць абжываць старыя гнёзды буслы. Растаюць у лесе апошнія плямы снегу, на падсохлых палянах зазеленела трава. На рэках і азёрах чарнее, трэскаецца лёд, пачынаецца паводка. Нават невялічкія рачулкі ператвараюцца ў бурныя, глыбокія і імклівыя. Рыба выходзіць нераставаць на мелкаводдзі.

Але найбольш уражвае пасля зімовага маўчання вясенні лес. З ранку да позняга вечара і нават уночы стаіць тут несціханы птушыны гоман. Упершыню ў красавіку падаюць свой голас зязюлі.

А ўнізе пад полагам лесу пачынаюць варушыцца падземныя жыхары. Вылазяць на сонца мурашкі, гадзюкі, вужы, яшчаркі.

Аднак надвор'е ў гэтым месяцы часта бывае непрыемным. Выйдзеш на вуліцу, над галавой ззяе сонца, што, здаецца, пазагараў бы, а праз хвіліну становіцца пахмурна і маркотна, пачынае кружыцца снег. Былі выпадкі, калі снег на некалькі дзён лажыўся і ў маі. Адным словам, год на год не прыходзіцца. А ўвогуле, надвор'е ў красавіку можна прадказаць па прыкметах абуджэння прыроды.

Калі, напрыклад, пчолы вылятаюць рана, то і вясна будзе ранняя і цёплая. Бярозы выпусцілі лісты раней за вольху — чакайце сонечнага лета. Аб будучым можна меркаваць і па тым, як цячэ сок з бяроз. Калі вельмі багата, лета чакаецца дажджлівым.

Як бы там ні было, але красавік не дарэмна назвалі менавіта так. Расцвітаюць на лугах і ўзлесках першыя краскі новага года — пралескі, сон-трава, кураслеп. З'яўляецца новае патомства і ў лясных жыхароў — вавёрак, барсукоў і іншых.



# ЦЯЖКАЯ НАВУКА

**( Працяг са стар. 9 )**

— Гэта ты не мышку злавіў, а ў клубок нітак учапіўся. З іх мала карысці: ні мяса — паласавацца, ні касцей — пагрызці... Наша справа — мышы!

— А якія яны, мышы? — трэці раз пацікавіўся Каток.

— А яны, гэта, — наморшчыў лоб стары Кот, — сыр любяць. Я, помню, адну злавіў, калі яна галоўку сыру грызла.

І зноў стары Кот, выграшыўшы, што растлумачыў дастаткова добра, улёгся зручней, каб сон дасніць, а Каток трэці раз на паляванне падаўся.

Цераз двор прабег, вакол хаты абышоў, у хлеў зазірнуў. Бачыць, на бервяне звярок сядзіць, чорную скарыначку грызе. Сам маленькі, шэранькі, хвосцік да зямлі звісае.

„Па ўсіх прыкметах — мышка, — падумаў Каток. — Але чаму яна хлебную скарыначку грызе, а не сыр? Трэба спытацца, а то і трэці раз памыліцца няцяжка..."

Падышоў Каток і ледзь чутна пытае:

— Ты сыр любіш?

— Ой! — схамянулася Мышка і ад перапуду хлебную скарыначку ўпусціла. — Люблю, — прызналася яна.

— Цудоўна! — пацёр Каток лапкі. — Урэшце я знайшоў тое, што шукаў... Зараз я цябе злаўлю і папалудную.

Зразумела Мышка, што трэба неяк выкручвацца, сваё жыццё ратаваць, — пачала хітраваць.

— Пачакай крышку, паважаны Кот, — пачала яна прасіць і наўмысна Катка Катом назвала. — Раз мне выпаў лёс табе на абед трапіць — нікуды не падзенешся. Толькі ў мяне зараз усе зубы чорныя — сам бачыў, я гарэлую скарыначку грызла. Адпусці на хвіліну дадому — зубы пачысціць. Не да твару, паважанаму Кату, нейкай там мышкай-замухрышкай палуднаваць.

Прыемна Катку такія словы чуць. Нават сам сябе паважаць пачаў.

— Добра, — згадзіўся, — ідзі, толькі доўга не затрымлівайся.

Шмыгнула Мышка ў норку і як у ваду канула.

А Каток аж дасюль каля норкі сядзіць — мышку чакае. Калі, вядома, не падрос за гэты час ды не паразумнеў.

Не простая гэта справа стаць добрым катом!

**Іван Бурсаў**

**З рускай мовы пераклаў Рыгор Барадулін**

# БЛАГАВЕШЧАННЕ БОЖАЙ МАЦІ

*Свята прысвечана ўспаміну таго дня, калі Архангел Гаўрыіл паведаміў добрую вестку Дзеве Марыі, што ёй суджана стаць Маці Сына Божага.*

*На Благавешчанне, як і на кожнае свята, забаранялася што б там ні было рабіць: „На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе". У народзе свята гэта мела старажытныя карані, лічылася днём надыходу вясны. Шмат дзе якраз ад Благавешчання (а ў некаторых мясцовасцях нават раней, у залежнасці ад традыцыі і, вядома, ад надвор'я) адбывалася гуканне вясны. Благавешчанне было вяхою ў прадбачанні надвор'я. Калі свята аказвалася цёплым, сялянін мусіў чакаць марозную восень, і наадварот, снег, што залежаўся да гэтай пары, абяцаў цёплую восень. Гаварылі, што такое надвор'е, як на Благавешчанне, павінна паўтарыцца і на Вялікдзень.*





# ПОШТА ЗОРКІ

**Добры дзень, паважаная „Зорка"!**

Піша табе вучаніца 6 „б" класа школы н-р 2 з мястэчка Мікашэвічы — Света Валковіч. Я люблю расказваць пра свой любімы занятак. Я вельмі люблю з мамай пячы тарты, булкі, сухарыкі і шмат чаго іншага. Я хачу адзін з рэцэптаў прадставіць замежным дзецям.

**СУХАРЫКІ**

*1 шклянка цукру, 2 яйкі, 3 шклянкі мукі, 1 пачка тлушчу (200 г), соль, паўлыжачкі соды (пагасіць воцатам).*

Яйкі збіць з цукрам, маргарын сцерці на тарцы, высыпаць у міску, перамяшаць, дадаць соды і мукі. Усё добра перамяшаць. Скачаць у рулецікі і змазаць іх яйкам, а потым выпякаць. Гатовыя рулецікі разрэзаць і палажыць на бок. Паставіць у духоўку і падсушыць.

Смачна есці!

Мой адрас: Беларусь, 225610, Брэсцкая вобл., Лунінецкі раён, г.п. Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 87, кв. 28,

**Святлана Валковіч**

* * *

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць да цябе вучні пятага класа са школы ў Нарве. Мы хочам табе расказаць пра наш клас.

Беларускай мове вучацца дзеці з двух класаў — у V „а" — 2 асобы, у VI „б" — 6 асоб. Раней нас было яшчэ менш. 3 кастрычніка дайшла адна вучаніца — Эдыта Нічыпарук. Наша зала, у якой мы вучымся, невялікая, затое прыгожая.

На ўроках мы часта выкарыстоўваем „Ніву". Асабліва нам падабаюцца „Прыгоды мышкі Пік-Пік" і смяшынкі. Калі-некалі глядзім відэа. Часта выязджаем на экскурсіі. Нядаўна ў Менску пабывалі нашы вучні на зімніх канікулах. Вярнуліся задаволеныя. Але і да нас прыязджае шмат гасцей, якіх мы запрашаем. Цяпер мы рыхтуемся да „салодкага стала".

А што чуваць у нашых сяброў? Напішыце!

**Вучні пятага класа з Нарвы**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

**Дзень добры, паважаная рэдакцыя!** Піша вам вучань VI „б" класа сярэдняй школы н-р 2 г.п. Мікашэвічы — Дзяніс Царкевіч.

Я хачу пазнаёміцца з хлопчыкам з Польшчы майго ўзросту — 11-12 гадоў. А цяпер я вам раскажу пра свайго сябра, Толю. Я з ім пазнаёміўся ў 2 класе. Толя — мой лепшы сябар. Мы вучымся ў адным класе. Ён дапамагае мне ў вучобе, калі я чаго-небудзь не разумею. Мы разам гуляем на вуліцы, ходзім разам у Палац культуры, глядзім кіно. Мы любім гуляць у футбол, хакей, тэніс. Ніколі не крыўдзім дзяўчынак. На майго сябра можна спадзявацца ў любой справе.

Незнаёмы замежны сябар, чакаю ад цябе ліста!

Мой адрас: 225610, Беларусь, Брэсцкая вобл., Лунінецкі раён, г. п. Мікашэвічы, вул. Першамайская, д. 117, кв. 10, **Царкевіч Дзяніс.**



АДГАДАНКА

Пакажы дарогу да лясной азярынкі.




Шаноўнае Сэрцайка! Я ў справе „Сардэчных тайнаў” з „Нівы” н-р 12 ад 22 сакавіка 1992 г. Ірка пісала там, што мае каханка за мяжой, але ён жанаты. Яна не можа перажыць таго, што ён прыязджае да яе раз у тры месяцы і вяртаецца дадому, а яна застаецца тут у ролі яго замежнай каханкі.

У мяне ў жыцці зложылася падобная сітуацыя. Падобная ў тым сэнсе, што я пакахала таксама хлопца, які жыве за граніцай. Я яшчэ незамужняя, але ён жанаты, на жаль, хаця яму ўсяго 23 гады. Я працую сакратаркай дырэктара даволі вялікай фірмы. Калі той хлопец стаў на парозе майго пакоя, я ўжо ведала, што кахаю яго. Бачу, што і я яму неабыякавая. Кажа, што таксама пакахаў мяне ад першага погляду. Не можа, аднак, развесціся ў ніякім выпадку. Раз — што ў іх, бізнесменаў, гэта не прынята, два — ёсць ужо дзіця, тры — цэлы іх бізнес супольны.

Мы сустракаемся па-рознаму: часамі — штомесяц, а часамі — раз у паўгода. Тады ўспамінаю яго пацалункі, блакіт сур'ёзных вачэй, з якіх часамі сыплюцца смяшынкі, сонечную ўсмешку. Не магу глядзець на ніякага іншага хлопца. Калі яго няма, я нікуды не хаджу, ні з кім не сустракаюся. Чакаю.

Не ведаю, ці ёсць сэнс у гэтакіх спатканнях. Фактычна я не маю з гэтага нічога — апрача пачуццяў. Але гэта для мяне — галоўнае. Нічога іншага мне ад яго не трэба.

Я ведаю, што ёсць жанчыны, якія не годзяцца на такія пачуцці: яны б хацелі мець мужчыну толькі для сябе, а яшчэ лепш — назаўсёды. Каб ім служыў, быў адданы, аддаваў грошы і, вядома, кахаў. А я задавальняюся малым і ў іх вачах выглядаю, як вар'ятка. А ці ж я сапраўды вар'ятка, Сэрцайка?!

**Магдалена**

Магдалена! Чаму вар'ятка?! У цябе ёсць тое, чаго не купіш за ніякія грошы, бо ў цябе ёсць пачуцці. Яны ў жыцці лічацца найбольш. Каханне тваё вялікае, як добры раман, а вашы сустрэчы ад часу да часу — гэта як кніжка, якую раскрываеш на апошняй прачытанай старонцы. І чытаеш далей...

А як жа адчуваюць сябе жонкі маракоў, што выплываюць у мора на паўгода і больш?! Яны ж таксама ўмеюць чакаць, хаця не кожнай удаецца быць вернай да канца.

У тваёй сітуацыі найгоршае — што гэты хлопец можа цябе ўбіць у старадзявоцтва. У яго ёсць дом, сям'я, дзіця, а цябе, на жаль, можа абмінуць сямейнае шчасце. Самотнаму на старасць быць кепска. Пачакай цярпліва — з часам сітуацыя выясніцца. На многае, аднак, не разлічвай!

**СЭРЦАЙКА**




Дарагі Астроне! А ўсё ж не канец яшчэ снам, звязаным з хваробай майго мужа. Сніцца, што я ў царкве, якая знаходзіцца ў вёсцы, адкуль паходзіць мой муж. Людзей мнагавата і я сярод іх. Яны займаюць плошчу толькі палавіны царквы — ад уваходу, перад — свабодны. Не відаць бацюшкі і служба не адбываецца. А што цікавае — няма ні іканастаса, ні царскіх варотаў, а проста сцяна. І пры той сцяне, бачу я раптам, на зямлі, стаіць вялікая ікона святога Мікалая. Я іду да тае іконы, станаўлюся на калені і дзякую святому Мікалаю, што памог майму мужу адолець хваробу (мой муж — таксама Мікалай).

А праз некалькі дзён прысніўся вось такі сон. Быццам я ў кватэры, якую мы атрымалі як толькі пажаніліся. Уваходзіць у хату мой брат з жонкай і цешчай. Я іх запрашаю, хачу зрабіць ім снеданне, але яны кудысь спяшаюцца. І пайшлі. Потым спаткала я іх непадалёк і запрашаю ў хату, хачу, каб маці братовай пабачыла маю кватэру, яна ніколі ў мяне не была. Ну, і яны ў маёй хаце. У пакоі не прыбрана пасцель. Помню, што навалачка на коўдры не была каляровая, а белая. На пасцелі нейкае адзенне ляжыць, і ўвогуле балаган у хаце. Я хачу ім спячы налісьнікаў, але добра не памятаю, ці ўдалося мне іх пачаставаць.

**Кацярына**

Так, Кацярына, сапраўды яшчэ, здаецца, не канец тваім клопатам. Яшчэ будзе смутак, бо ж была ты ў царкве, тым больш, што ні іканастаса, ні царскіх варотаў не было відаць — на іх месцы была сцяна. Ну, што ж, сцяна — гэта вядома, нейкія перашкоды, пэўна, гэта і ёсць тыя хваробы твайго мужа. І раптам перад тваімі вачыма паяўляецца ікона святога Мікалая, якому ты пачала дзякаваць за выздараўленне мужа. Нават калі б ты і не дзякавала, то паяўлення гэтай іконы ўжо было б дастаткова, каб паверыць у добры зыход справы. Ікона абазначае поспех.

Твой другі сон таксама намякае пра нейкую хваробу (тая белая пасцель), а балаган у хаце (не скажу — табе, ці тваім гасцям) абазначае перамену дома ці працы.

**АСТРОН**

# ГУМАННАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 120 гурткоў Польскага чырвонага крыжа на прадпрыемствах. Налічваюць яны 5600 членаў. У школах існуюць 264 гурткі, у іх 18.000 членаў. Ёсць яшчэ 268 клубаў „Вавёрка”, якія аб'ядноўваюць 9355 членаў і дзейнічаюць у прадшколлях і сярод малалетак у пачатковых школах. Да арганізацыі ПЧК належаць перш за ўсё тыя людзі, якім асабліва блізкімі з'яўляюцца справы здароўя, гігіены, выратавальная служба і грамадская апека.

Многа ўвагі прысвячаецца санітарнаму абучэнню на фабрыках і ў школах. У мінулым годзе праведзена 130 курсаў, якія паспяхова закончыла тры тысячы чалавек. Конкурсы чысціні арганізавалі ў 43 школах. Лекцыі на тэмы СНІД, туберкулёза і наркаманіі лекары чыталі ў 16 інтэрнатах.

У ваяводстве дзейнічае 59 клубаў пачэсных донараў, якія налічваюць 5788 чалавек. У 1991 годзе аддалі яны на лячэбныя патрэбы 3445 літраў крыві.

Іншая галіна дзейнасці ПЧК — гэта пастаянная апека над самотнымі хворымі дома. Зараз 278 так званых сёстраў ПЧК апякуецца адной тысячай прастарэлых адзінокіх хворых. З дапамогі суседзяў карыстаецца 200 асоб. Бясплатныя абеды ў школах атрымоўвала 145 вучняў.

**ЯСЕНЬ**




## КЛЁЦКІ ПА-ШВЕЙЦАРСКУ (І)

**Цеста:** 250 г мукі, шклянка малака, 3-4 лыжкі масла ці маргарыну, 3 яйкі.

**Соус:** 2 яйкі, 5 лыжак цукровай пудры, паўшклянкі малака, тлушч і сцертая булка для посуду, у якім клёцкі будуць запякацца.

Малако закіпяціць з маслам, усыпаць прасеяную муку, дакладна вымясіць цеста, пакуль не пачне яно адставаць ад сценак посуду. Тады астудзіць, спалучыць з яйкамі. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у кіпячую пасоленую ваду, зварыць, адцадзіць, пераладжыць у посуд, змазаны тлушчам і пасыпаны сцертай на тарцы булкай.

Яйкі памыць, выліць са шкарлупіння, аддзяляючы жаўткі ад бялкоў. Жаўткі расцерці з цукрам, перамяшаць з малаком і збітай пенай з бялкоў. Заліць гэтым соусам клёцкі і запячы.

## ШВЕЙЦАРСКІЯ КЛЁЦКІ (ІІ)

**Цеста:** 250 г мукі, шклянка малака, 3 лыжкі цукру, 3-4 лыжкі масла ці маргарыну, 2 яйкі.

**Соус:** 2/3 шклянкі смятанкі, 500 г груш, 4 лыжкі цукру, 2 лыжкі мукі, соль па смаку.

Малако закіпяціць з маслам і цукрам, усыпаць прасеяную муку, дакладна вымясіць цеста, пакуль не пачне адставаць ад сценак посуду. Тады астудзіць і перамяшаць з жаўткамі і збітай пенай з бялкоў. Металічнай лыжкай рабіць прадаўгаватыя клёцкі, класці іх у кіпячую пасоленую ваду. Зварыць, адцадзіць, пераладжыць у маленькія аднаасабовыя салатніцы.

Закіпяціць ваду з цукрам, палажыць у яе абабраныя і парэзаныя на частачкі грушы, хвіліну варыць. Грушы палажыць на клёцкі. Паўшклянкі сіропу з груш спалучыць са смятанкай, перамешанай з мукой, закіпяціць, заліць клёцкі.

Падаваць халоднымі ці гарачымі.

## „КЛАДЗЕНЫЯ” КЛЁЦКІ

**Прадукты:** 400 г мукі, 3/4 шклянкі вады, 2 яйкі, 1,5 лыжкі тлушчу, соль па смаку. Муку прасеяць у посуд, дадаць яйкі, ваду і соль, дакладна вымясіць, каб у цеста ўвайшло як мага больш паветра, якое з'яўляецца ўспульхняючым чыннікам. Можна таксама ўсе прадукты палажыць ў міксер, уключыць на 30 секунд. Класці металічнай лыжкай прадаўгаватыя клёцкі ў кіпячую пасоленую ваду з тлушчам, перамяшаць, каб клёцкі не прыкleіліся да дна посуду, і варыць пад пакрыўкай. Адцадзіць, паліць гарачай вадой, абсушыць на сіце.

Падаваць з соусамі ці маслам і цукрам, можна таксама пасыпаць тваражком.

**ГАСПАДЫНЯ**

### ДОЎГА ЗАДУМОЎВАЕШСЯ — ПРАЗЯВАЕШ!

У канцы мінулага года Белавежу наведаў праф. Ежы Л. Альшэўскі, колішні тутэйшы навуковы працаўнік, зараз выкладчык у Вышэйшай педагагічнай школе ў Кельцах. Ён мне паведаміў, што ў келецкім навуковым антыкварыяце знаходзіцца ў продажы акварэль Р. Праўса з вывай каталіцкага касцёла ў Белавежы на фоне дубоў і пасучыхся побач зуброў. Гэтая акварэль у міжваенны перыяд рэпрадукавалася як паштоўка-цаглінка, а даход з яе продажу ішоў на пабудову касцёла. Задумоўваліся мы з праф. Альшэўскім, як гэту акварэль сцягнуць у Белавежу? Хто змог бы купіць яе? Гэта ж для Белавежы гістарычная памятка! Асабліва для каталіцкай грамады. Разважалі мы, ці не ўгаварыць на куплю мясцовага ксяндза?! Аднак, пакуль праф. Альшэўскі спяшаўся, мы так нічога канкрэтнага і не вырашылі.

І вось нядаўна я даведаўся, што 17 снежня 1991 г. у келецкі антыкварыят было ўзламанне. Сярод украдзеных прадметаў была і... акварэль. Вось табе і на! Шанц сцягнуць у Белавежу цікавую памятку прапаў або адцягнуўся на неакрэслены час. А можа, калісьці акварэль Праўса дзесьці „выплыве”? Калі б хто з чытачоў „Нівы” аб гэтым даведаўся, няхай павядоміць!

**ПЁТР БАЙКО**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-132-3, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

| | | |
|---|---|---|
| 3924. | Прыхаджане царквы і члены БГКТ у Гданьску | - 420.000 зл. |
| 3925. | Юльян Казбярук (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |
| 3926. | Хор БГКТ пры Гайнаўскім доме культуры | - 2.000.000 зл. |
| 3927. | Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) | - 100.000 зл. |
| 3928. | Ірэна Шастай з Нарвы (за продаж цаглінак) | - 45.000 зл. |
| 3929. | Міхал Голуб (Гайнаўка) | - 60.000 зл. |
| 3930. | Браніслаў Даніловіч (ЗША) | - 50 амер.дол. |
| 3931. | Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы | - 1.476.000 зл. |
| 3932. | Мікалай Алексяюк (Варшава) | - 100.000 зл. |
| 3933. | Сума з адкрыцця скарбонкі ў Музеі | - 317.800 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42. Тэлефон 30-16.

## АНЕКДОТЫ

Лезе п'яны па чыгуначных шпалах і не можа разабрацца, дзе ён.

— Божа, якія доўгія сходы. Ужо, мабыць, на дзесяты паверх залез.

* * *

Да лекара зайшла жанчына; лекар кудысьці спяшаўся:

— Ну, хутка гавары, у чым справа, таму што я спяшаюся.

— Жывот...

— А, жывот? Добра. Пійце! — і дае ёй касторкі.

— Ды, пане доктар...

— Піце!

Жанчына выпіла.

— Ідзіце.

— А ад жывата?

— Як ад жывата, я ж ужо даў!

— Ды не мне, пане доктар, жывот у дачкі баліць.

* * *

— Я кахаю вас больш за жыццё і хачу, каб аб нашым каханні ведаў увесь свет... апрача маёй жонкі.

* * *

— Дзядзьку, дай мне закурыць!

— Ну, і вучаць вас у школе. Гаворыцца „дайце", а не „дай".

* * *

Бацька: — Сынок, у твае гады я ніколі не лгаў.

Сын: — А калі ты пачаў, тату?

* * *

Кліент: — Якую вы мне кашулю аддалі? Яна ж брудная.

Работнік: — Супакойцеся, яна такая і была.

* * *

— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.

— Не хвалюйцеся, у ім няма шкляных рэчаў.

*Падборку зрабіла*
*А. ПРАЛЕСКА*




*Мал. Ігара Варашкевіча.*







*Мал. Пятра Козіча.*

## ЗАГАРТАВАНЫ

— Спаць, усім спаць! — люляў сядзячых у зале гіпнатызёр і старанна круціў у паветры нейкі бліскучы шарык.

— Няма дурняў, каб спаць! — гучна прамовіў у першым радзе мужчына.

На яго голас агледзяліся суседзі. Маг толькі кінуў сярдзіты позірк на балбатуна і працягваў:

— Зараз на сцэну запрасім скакуноў.

Усім смешна было бачыць, як стараецца, закідвае ў танцах ногі стары Яўхім. Толькі ўсё той жа мужчына незадаволена бубніў:

— Знайшоў забаву! Гэты стары і без гіпнозу на хаду спіць.

Гіпнатызёр адпусціў Яўхіма.

— А цяпер зоймемся малаверам, — сказаў і ўтапырыўся позіркам у бурлівага мужчыну.

— Давай, давай! Напалохаў! — азваўся мужчына.

Маг пакруціў шарык перад яго носам.

— Вакол цябе шугае полымя, ратуйся! — пагрозліва прагаварыў маг.

— Ну і што? – пачуў у адказ.

— Згарыш! — палохаў гіпнатызёр.

— Плявацъ! Я сінім полымем гарэў і ўцалеў, — сказаў мужчына. — Тры пракуроры палілі і нічога не выпалілі. Мяне, браток, з белага каня сцягнуць не проста!

— Твой белы конь праваліўся ў глыбокую яміну! — амаль закрычаў маг.

— Не хвалюйся, — супакоіў яго мужчына, — з-пад зямлі ўсё дастаю, з яміны — раз плюнуць!

— Гіпнатызёр апусціў шарык.

— Што дастаеш? – шэптам спытаў.

—Усё! Нават калготкі і відэамагнітафоны.

— Ты забеспячэнец? — пацікавіўся гіпнатызёр.

— Я з тых, браток, хто не спіць нават пад гіпнозам.

Паводле
**Міколы Каралёва**

### АНТОН І ХАРЫТОН

**(байка)**

Не раз я чуў ужо пра гэта
Ад вучонага і паэта:
„Што нам — дарага, то — міла,
У каго — права, у таго — сіла".
У тэатр дырыжорам
Прыстасаваўся Харытон,
Стаў кіраваць адметным хорам,
Дзе шмат гадоў спяваў Антон.
Яго песня, што з-пад сэрца,
Як ручай лячэбны льецца
І ўзнімае ў табе дух,
Песня — твой найлепшы друг.
А Харытона не кранае,
Хто якім голасам спявае:
Ці тэнарам, ці барытонам,
Ці без Антона, ці з Антонам,
Яму заўсёды, як бывала:
Быў бы добры падпявала,
З якім так хораша жывецца:
Усё чаргой сваёй вядзецца.
Падпець усюды ён імкнецца
Ды на вялікае здзіўленне
Перад капэлай харавой
У час такога выступлення
Падняў сабачы лай і вой.
І да Антона падбягае,
З салёнай мовай налятае:
„Пакідай мне сёння ж сцэну!
Павінен сам аб гэтым знаць —
Знайду я лепшую замену,
Што будзе пець і падпяваць".

---

Цудоўных песень не чуваць,
Бо Харытон стаў кіраваць...

**АЛЯКСАНДРА ЕЛІСЕЕНКА**

### ВУЧНІ, ТРЫМАЙЦЕСЯ!

У сувязі з развалам Савецкага Саюза і прызнаннем Польшчай новых незалежных дзяржаў, школьніцтва таксама стараецца ісці з духам часу і дапасавацца да новай рэчаіснасці.

Прапануецца, каб у школах, у якіх вядзецца навучанне рускай мовы, увесці дадатковае навучанне азербайджанскай, армянскай, беларускай, эстонскай, грузінскай, казахскай, кіргізскай, літоўскай, латышскай, малдаўскай, таджыкскай, туркменскай, узбекскай і ўкраінскай моў.

**Ежы Віснёх**

## АБ' ЯВА

Увага! Ад сёння адкрываецца кантора абмену срэбнікаў на долары!

**Юліюш Вантроба**

## КАСЯК НА „Ш"

**Управа:** 1) для намотвання нітак, 3) тайна збірае весткі, падпольнаўвае, 5) шахматы без „ма", 7) палоска па краі тканіны, іншага колеру або ўзору.

**Улева:** 2) не адна пад рэйкамі, 4) можа быць у жаночай касе, 6) дошкі вакол сцен хаты, 8) калючая зброя на агністрэльным ружжы.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на міні-крыжаванку з н-ра 8. Упоперак:** сарабанда, катамаран, жыварадка. **Уніз:** пасажыр, самакат, паравоз, адпайка.




****************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
– maj – 15 000 zł.
– czerwiec – 12 000 zł
– lipiec – 14 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.